ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 33 31 жніўня 1995 г.
(2435) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## АТРУТА ПА КРОПЛІ

# ВЫЖЫВЕМ. АЛЕ КАЛІ БУДЗЕМ ЖЫЦЬ?

**Усё больш у нашы дні рабочы рух з катэгорыі чыста тэарэтычнай пераўтвараецца ў нешта канкрэтнае і адчувальнае. Ды і было б дзіўна, калі б пры тым становішчы ў прамысловасці, якое сёння на Беларусі склалася, гэтага не здарылася. Хаця трэба адзначыць: на заводах-гігантах выбухі незадаволенасці рабочых пакуль яшчэ ўладам удаецца неяк стрымліваць, і пажар не разгараецца. Але сярод прадпрыемстваў меншых ужо нават ёсць свае забастовачныя лідэры. Да іх ліку ў Мінску адносяць і завод аўтаматычных ліній. Хутчэй за ўсё сітуацыя на гэтым прадпрыемстве з'яўляецца своеасаблівым люстэркавым адбіткам агульнай карціны, што ўяўляе сабой беларуская прамысловасць. Такім чынам, што ж адбываецца на заводзе! Адказаць на гэтае пытанне, бадай, лепей за ўсіх можа прафсаюзны лідэр прадпрыемства Валянціна УГОЛЬНІК.**

-- Пачну з таго, што летась Мінскі завод аўтаматычных ліній адзначыў саракагоддзе з дня выпуску першага станка. І ўвесь гэты час мы ганарыліся сваім заводам, яго прадукцыяй, увогуле калектывам, у якім працуюць высокакваліфікаваныя спецыялісты. Нашы станкі добра ведалі ў былым СССР і за мяжой. Імі абсталяваны гіганты аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. Але сёння сітуацыя складваецца так, што мы страчваем і гэтыя высокакваліфікаваныя кадры, і ўвогуле свае пазіцыі. Эканамічная палітыка ўладаў проста душыць.

Так, нас пакуль яшчэ "не кінулі" нашы буйныя заказчыкі -- з Расіі, Сярэдняй Азіі, Украіны, яны па-ранейшаму звяртаюцца да нас, бо прадпрыемства мае вельмі добрую рэпутацыю, але сітуацыя на заводзе абвастрылася да краю.

Я працую на гэтым прадпрыемстве с 1962 года. Пачынала з такарнага станка, вучылася, скончыла універсітэт.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## НЕЗАКОННАЯ ЗАБАСТОЎКА



**Пачатак другой паловы жніўня ў нашай дзяржаве быў пазначаны забастоўкай у Мінскім метро. Бадай, усё пачалося з Гомеля, дзе спынілі работу вадзіцелі тралейбусаў, потым да іх далучыліся работнікі Мінскага першага тралейбуснага парка. 17 жніўня стала Мінскае метро і прастаяла чатыры дні.**

**Сталічныя ўлады не справіліся з сітуацыяй, яе павінен быў ратаваць сам Прэзідэнт. Ён абвінаваціў забастоўшчыкаў у эгаізме -- жаданні палепшыць толькі сваё матэрыяльнае становішча. Прэзідэнт угледзеў інспіратараў забастоўкі ў БНФ, а наогул нітачка пацягнулася, вядома ж, за мяжу -- у ЗША і суседнюю Польшчу. Зянон Пазьняк абверг заявы афіцыйных асоб аб тым, што нібыта БНФ меў дачыненне да арганізацыі забастоўкі ў Мінскім метро. Тое ж самае зрабілі і прадстаўнікі пасольстваў ЗША і Польшчы ў Беларусі.**

**А фінал забастоўкі ў Мінскім метрапалітэне такі: Мінскі гарадскі суд прызнаў забастоўку незаконнай. Тое ж і з забастоўкамі гомельскіх і мінскіх тралейбуснікаў. Дзяржаўная ўлада кантралюе сітуацыю.**

**НА ЗДЫМКУ: мітынг работнікаў Мінскага метро.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ПОМНІК НА МЕСЦЫ ВЁСКІ



**Трагедыя вёскі Драмлёва Жабінкаўскага раёна аналагічная трагедыі Хатыні. Летам 1942 года фашысты акружылі вёску, сагналі ўсіх жыхароў у вялізны хлеў і падпалілі. Замкнёнае памяшканне палівалася аўтаматным і кулямётным агнём. Цэлы дзень стаялі крыкі і стогны. Вечарам ні вёскі, ні жыхароў не стала. 286 чалавек былі знішчаны гітлераўцамі. У жывых засталося некалькі чалавек, якія хаваліся ў полі ці лесе.**

**Цяпер замест вёскі брацкая магіла-курган ды помнік, устаноўлены на месцы трагедыі.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік загінуўшым жыхарам вёскі Драмлёва.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## ЯЕ ВЫБАР — ВЫНІК ВЫХАВАННЯ

# ГЕНЕТЫЧНАЯ ПАМЯЦЬ ПАЎЛІНЫ СУРВІЛЫ

*Яе імя ўжо добра вядомае сярод тых, хто цікавіцца беларускім замежжам. Этнамузыколаг Марыя Паўліна Сурвіла з ЗША -- дачка беларускіх палітычных эмігрантаў часоў Айчыннай вайны. Упершыню на Бацькаўшчыну яна прыехала ў 1993 годзе, сёлетні прыезд у Мінск -- другі, але калі чуеш яе мову, бачыш радасць ад сустрэчы з гэтай зямлёй, з людзьмі, адчуваеш: яна наша, тутэйшая, беларуска. Думаю, нямногія з нас з такой шчырасцю й болем успрымаюць праблемы роднага краю, з такой цеплынёй і пяшчотай ставяцца да нашай Беларусі. Галоўныя адчуванні ад размовы з гэтай маладой, прыгожай, усмешлівай, разумнай, шчырай і натуральнай жанчынай -- яе неабсяжная дабрыня і зычлівасць.*

*Я думаю, расказ Паўліны зацікавіць тых, хто нарадзіўся і жыве ў сённяшняй Беларусі, у першую чаргу, як прыклад пашаны да сваіх каранёў, прыклад свядомасці тых, хто быў вымушаны з'ехаць з радзімы, але сумленна і з годнасцю пранёс гэтую свядомасць праз гады і краіны і перадаў яе ў спадчыну дзецям, якія нарадзіліся ў эміграцыі і ніколі не бачылі Беларусі. Думаю, будзе цікава чытаць артыкул і тым, хто зараз жыве ў эміграцыі: магчыма, многія знойдуць штосьці знаёмае ў гэтай гісторыі, а для некаторых, далі Бог, яна стане падтрымкай у нялёгкія перыяды жыцця на чужыне.*

"...Мае бацькі абодва беларусы: мама з Баранавіч, тата з-пад Ашмян. Калі гэта здарылася, тата меў 18 гадоў, выкладаў беларускую мову ў вясковай школе. Аднойчы, калі ён быў у школе, да яго прыбеглі суседзі, каб папярэдзіць: "Трэба адсюль ехаць. Небяспека вялікая, нельга нават дадому. Ідзі, з'язджай. Адразу". Тата пакінуў матку, бацьку, трох братоў, трох сясцёр -- паехаў у Нямеччыну, знайшоў як -- адразу схапіўся і паехаў.



У Нямеччыне працаваў на беларускія справы -- там выдаваліся часопісы па-беларуску. Хацеў вучыцца, ён вельмі ахвочы да ведаў быў. Крышку пазней трапіў у Францыю, дзе таксама хацеў вучыцца, але па французскіх законах эмігрант мог атрымаць неабходныя паперы толькі праз год працы на цяжкіх работах -- будаўніцтве дарог, напрыклад. Тата год працаваў -- не далі паперы, другі год -- таксама адмовілі. Тады ён даведаўся, што ў Іспаніі палітыка для людзей з замежжа значна больш зычлівая і што там ім прапануюць бясплатную адукацыю. Ён паехаў у Мадрыд і пачаў вывучаць эканоміку ва універсітэце. Мовы не ведаў -- адразу вучыў і гэтую тэорыю, і мову.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ВІЗІТ КЛАУСА КІНКЕЛЯ



21 жніўня адбыўся афіцыйны візіт міністра замежных спраў ФРГ Клауса Кінкеля ў Рэспубліку Беларусь.

Адна з найважнейшых праблем перагавораў з афіцыйнымі ўладамі -- выкананне Беларуссю абавязацельстваў па скарачэнню звычайных узбраенняў у Еўропе. Вялікая ўвага ўдзялялася двухбаковым адносінам, пашырэнню кантактаў паміж Беларуссю і Германіяй. Каля дзесяці пытанняў, так ці інакш звязаных з двухбаковымі адносінамі, абмяркоўваліся на сустрэчы Клауса Кінкеля з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ і міністра замежных спраў ФРГ К. КІНКЕЛЯ.

## СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКІМІ ПАЛІТЫКАМІ

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, напярэдадні адлёту ў Германію, вечарам 21 жніўня, у пасольстве ФРГ у Беларусі ў рамках агульных сустрэч з грамадскасцю адбылася размова паміж міністрам замежных спраў Германіі Клаусам Кінкелем і экс-міністрам замежных спраў Беларусі, намеснікам старшыні БСДГ па міжнародных пытаннях Пятром Краўчанкам.

У размове з карэспандэнтам Белінфарма Пётр Краўчанка сказаў, што ў ходзе прайшоўшай гутаркі ён звярнуўся да германскага палітыка з просьбай аказаць садзеянне ў прыняцці МВФ станоўчага рашэння па пытанню выдзялення Беларусі крэдыту, які складзе больш 200 мільёнаў долараў ЗША. Ён таксама адзначыў, што выдзяляемы МВФ крэдыт павінен ісці не столькі на пагашэнне бягучых расходаў па энерганосьбітах, колькі на набыццё акцый газавых і нафтавых кампаній. "Атрымліваць валютны крэдыт і тут жа аддаваць за яго кошт даўгі -- тое ж самае, што доларамі паліць печку", -- лічыць Пётр Краўчанка.

Акрамя таго, Пётр Краўчанка звярнуўся з просьбай пашырыць практыку выплаты грашовых кампенсацый вязням канцлагераў, што знаходзіліся не толькі на тэрыторыі Германіі, але і Беларусі.

Па звестках Белінфарма, на сустрэчу з К. Кінкелем прыйшлі ўладыка Філарэт, старшыня Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі Уладзімір Карагін, лідэр БНФ Зянон Пазьняк і іншыя палітычныя дзеячы рэспублікі.

ДАТА ВЫЗНАЧАНА

## ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ 29 ЛІСТАПАДА

29 лістапада адбудуцца паўторныя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Гэтая дата канчаткова зацверджана на прайшоўшым 22 жніўня пасяджэнні Цэнтральнай камісіі па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. Зацверджаны каляндарны план перадвыбарных мерапрыемстваў. Ужо ў бліжэйшыя дні праз каналы Белінфарма ён будзе перададзены ў сродкі масавай інфармацыі. На пасяджэнні выбарчага камітэта папярэдне разгледжаны кашторыс расходаў на перадвыбарную кампанію.

У адпаведнасці з заканадаўствам краіны Цэнтрвыбаркам рэкамендаваў выканаўчым камітэтам правесці ў гэты ж дзень выбары ў мясцовыя Саветы.

СЕНСАЦЫЯ

## АРЫШТАВАНЫ АЎТОБУС

Аўтобус брэсцкай фірмы "Іва" быў арыштаваны і канфіскаваны нямецкай паліцыяй з-за таго, што не адпавядаў тэхнічным патрабаванням, якія прад'яўляюцца да сродкаў руху.

Гэты аўтобус быў прадастаўлены турысцкай фірмай беларускім ватэрпалістам для паездкі на чэмпіянат Еўропы, прычым бясплатна. Цяпер жа нямецкія вартавыя парадку наклалі на фірму штраф у памеры чатырох тысяч марак.

ТРЫВОЖНЫ ПРАГНОЗ

## ДА КАНЦА ГОДА КАЛЯ 180 ТЫСЯЧ БЕСПРАЦОЎНЫХ

Згодна з прагнозам Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва, да канца гэтага года ў Беларусі будзе каля 180 тысяч беспрацоўных, што складзе прыкладна 2--2,4 працэнта ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва.

На 1 жніўня толькі афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у рэспубліцы налічвалася 114 тысяч 940 чалавек, узровень беспрацоўя складаў 1,82 працэнта. Рэзкае павелічэнне колькасці беспрацоўных спецыялісты цэнтра прагназіруюць у верасні-кастрычніку гэтага года. Прагноз зроблены на падставе звестак, што паступаюць у рэгіянальныя службы занятасці насельніцтва з прадпрыемстваў, якія плануюць правесці ў гэты перыяд даволі значнае скарачэнне колькасці сваіх работнікаў.

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## УЗНАГАРОДЖАННІ МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Вышэйшай узнагародай рэспублікі адзначана яго шматгадовая плённая дзейнасць па развіццю і захаванню культурнай спадчыны беларускага народа. Той жа ўзнагароды -- медаля Францыска Скарыны -- згодна з указам Прэзідэнта ўдастоены артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Генадзь Аўсянікаў і Генадзь Гарбук -- за вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

РЭЗАНАНС

## ЗАМАХ НА БУДУЧЫНЮ НАЦЫІ

Распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі аб выключэнні падручнікаў узору 1992--1995 гадоў з сістэмы школьнай і вышэйшай адукацыі з'яўляецца, паводле нашага перакanання, працягам небяспечнай палітыкі, пачатай рэферэндумам 14 мая 1995 года. Новы крок вярхоўнай улады -- не што іншае, як замах на духоўную і інтэлектуальную свабоду нацыі, а значыць, на яе будучыню.

Тое, што пад забарону трапляюць усе без выключэння новыя падручнікі гуманітарнай сферы, перакрэслівае велізарную працу ў пераарыентацыі на сусветны ўзровень адукацыі, у вяртанні гістарычнай праўды і вызваленні грамадства ад дурману таталітарызму. Сістэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінутая ў мінулае і не здолее даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзян, гатовых да жыцця ў сучасным дэмакратычным свеце.

На практыцы рэалізацыя распараджэння азначае, што ў новым навучальным годзе школьнікі і студэнты застануцца без падручнікаў гісторыі, мовы, літаратуры і іншых гуманітарных дысцыплін, якія фарміруюць светапогляд асобы. Можна ўявіць, колькі будуць каштаваць дзяржаве падрыхтоўка і выданне новых падручнікаў. А дзе гарантыя, што іх абяцанае "шырокае грамадскае рэцэнзаванне" не будзе такім самым "публічным", як дзейнасць таямнічай экспертнай камісіі, матэрыялы якой сталі падставаю прэзідэнцкага рашэння!

Робіцца спроба паняверыць гісторыю назад, хоць досвед еўрапейскіх краін, у тым ліку і бліжэйшых суседзяў Беларусі, сведчыць, што падобныя сацыяльна-палітычныя эксперыменты раней ці пазней заканчваюцца крахам.

Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі;
Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі;
Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі;
Уладзімір АРЛОЎ, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра;
Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, пісьменніца;
Васіль ЗУЁНАК, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў;
Карлас ШЭРМАН, віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра;
Генадзь БУРАЎКІН, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
Сяргей ЗАКОННІКАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі;
Анатоль КУДРАВЕЦ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ

## "СПЕКУЛЯЦЫІ АСОБНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ"

На сустрэчы з групай вучоных, работнікаў народнай асветы і вышэйшай школы, дзяржаўнага апарату Прэзідэнт А. Лукашэнка заявіў, што ўказа або іншага дзяржаўна-прававога акта аб "выключэнні 151 падручніка" не падпісваў і падпісваць не збіраецца. Усё гэта з галіны амаральных спекуляцый асобных журналістаў і каляпалітычных "дзеячаў".

Ураду даручана з удзелам навуковай і педагагічнай грамадскасці арганізаваць конкурсную падрыхтоўку новых навучальных праграм, а на іх аснове -- навучальных дапаможнікаў і падручнікаў, пазбаўленых як нацыянальна-радыкальных фальсіфікацый, так і дагматычнай зашоранасці, якія будуць вызначацца высокім навуковым узроўнем, яркім і даступным выкладаннем.

ДЗЯКУЙ, ДОКТАР!



Віктар Санюкевіч -- урач-акуліст, кандыдат медыцынскіх навук, вось ужо каля 20 гадоў жыве і працуе ў Брэсце. Апошнія шэсць гадоў займаецца прыватнай практыкай. Справа ў тым, што лячэнне ён праводзіць нестандартна, пры дапамозе створаных ім жа прыбораў. Яны дазваляюць лячыць многія хваробы вачэй. Дастаткова сказаць, што раней да доктара Санюкевіча ехалі з усяго Савецкага Саюза, і многія яго былыя пацыенты пішуць яму ўдзячныя пісьмы да гэтага часу.

Штогод Віктар Іосіфавіч кансультуе звыш тысячы хворых. У асноўным гэта дзеці і маладыя людзі, большасць з якіх ён жа і лечыць. У апошнія гады па просьбе хворых доктар рабіў выязны лячэбны кабінет у Мазыры, Бабруйску, Мінску, Калінкавічах, Оршы. Цяпер ён разгорнуты ў Баранавічах.

Многія хворыя, якія былі асуджаны ўсё жыццё насіць акуляры, прайшоўшы курс лячэння, знялі іх, у іх аднавіўся зрок.

НА ЗДЫМКУ: урач-акуліст В. САНЮКЕВІЧ у сваім брэсцкім кабінеце.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

СЫН нашага славутага на ўвесь свет земляка Андрэя Грамыкі, былога міністра замежных спраў СССР, Анатоль Грамыка, ураджэнец горада Барысава, наведаў родныя мясціны. На сустрэчы з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам ён выказаў намер дапамагчы сваёй радзіме. У прыватнасці, пастаўляць у Беларусь розныя медыцынскія прэпараты амерыканскай вытворчасці, садзейнічаць прыцягненню ў нашу дзяржаву замежных інвестыцый.

ПРЭМІЯ імя Алеся Адамовіча будзе ўручана лаўрэатам ужо ў верасні 1995 года. Камісія па прэміях, якую ўзначальвае Васіль Быкаў, вызначыць імёны 4-х чалавек у жанры літаратурнай публіцыстыкі і журналістыкі. Яны атрымаюць медалі лаўрэатаў з выгравіраваным на адным з бакоў прозвішчам і прэмію ў памеры 500 амерыканскіх долараў. Прэмія імя А. Адамовіча -- першая недзяржаўная ўзнагарода ў Беларусі.

ПРАДПРЫМАЛЬНІК з Грэцыі Георгій Дзінас ужо ўклаў 100 тысяч амерыканскіх долараў у купленую ім свінаферму ў калгасе імя Чапаева Лёзненскага раёна. Ферма даўно пуставала, і спадар Дзінас наважыўся закласці тут пушную гаспадарку. Уся прадукцыя пойдзе на беларускі рынак.

ПА ДАВЕДЦЫ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, на ўліку стаіць каля 1 500 жанчын, якія займаюцца прастытуцыяй. Каля 500 прадстаўніц старажытнай прафесіі -- непаўналетнія. Узрост астатніх -- ад 18 да 38 гадоў.

НОРАВЫ сучасных беларускіх "абаронцаў айчыны" не ідуць у параўнанне з былымі купецкімі. Камандзір брыгады палкоўнік Чычко жаніў свайго сына. Над ваенным гарадком Фолюш (Гродна), дзе адбывалася вяселле, праляцеў самалёт. А з яго выскачылі сем парашутыстаў. Прызямліўшыся, яны галантна ўручылі маладым букеты кветак.

СТРАТЫ ад аварыі на нафтаправодзе ў вёсцы Чонкі пад Гомелем, што адбылася 10 красавіка, складаюць 37 мільярдаў рублёў. Нафта расцяклася на 34 гектарах лесу і балоцістай мясцовасці. Праведзеная камісіяй партыі "Зялёны свет" экспертыза паказала, што нафта працягвае выліваць.

ВЫНАСНЫ медны крыж са святым лікам Ісуса Хрыста быў знойдзены ў Бабруйскім раёне ў 1989 годзе. Крыж мае вечную культурную і гістарычную каштоўнасць, яму не менш 700 гадоў. У даўнейшыя часы яго выносілі з храма на святы Узвіжання і Крыжапаклонны тыдзень для пакланення і агляду людзей. Крыж перададзены ў царкву Трох святцеляў у Магілёве.





# ПЛОШЧА 1000-годдзя

У цэнтры Віцебска на беразе Дзвіны, на старажытнай тэрыторыі Ніжняга Замка, якая цяпер называецца плошча 1000-годдзя, маецца толькі два будынкі, і абодва царкоўныя. Адзін яшчэ толькі напалову пабудаваны -- гэта старажытнейшая Благавешчанская (Дабравешчанская) царква, якая аднаўляецца. Па паданню, Віцебск быў заснаваны славутай кіеўскай княгіняй Вольгай, якая пабудавала і Благавешчанскую царкву ў Ніжнім Замку. Відаць, яна была драўлянай і не захавалася. Каменная царква была ўзведзена ўжо ў XII стагоддзі. Мяркуюць, што яе пабудавалі візантыйскія майстры, таму што па тыпу кладкі яна унікальная для нашых мясцін, няма такіх цэркваў і ў Расіі. У сярэднія стагоддзі Благавешчанская царква была самай шануемай царквой у Віцебску, пра што сведчыць каралеўская грамата. На жаль, у 60-х гадах, калі "пачалі будаўніцтва камунізму", царкву ўзарвалі. Засталіся, на шчасце, рэшткі сцен, і цяпер яна ўзнаўляецца ў першапачатковым выглядзе. Побач сіламі веруючых тры гады назад, калі была створана праваслаўная абшчына Благавешчанскага прыхода, пабудавана яшчэ меншая па памерах драўляная царква ў імя Святога князя Аляксандра Неўскага. Гэтае прысвячэнне невыпадковае. Аляксандр Неўскі быў жанаты на дачцэ полацкага князя (якому падпарадкоўваўся і Віцебск). Сам ён і яго сын бывалі і ў Віцебску, магчыма, маліліся ў Благавешчанскай царкве. Цяпер малітвы зноў гучаць у царкве ў імя св. Аляксандра Неўскага, а ў будучыні, спадзяёмся, загучаць і ў царкве Благавешчання.

Плошча 1000-годдзя павінна згодна з праектам зноў набыць старадаўні выгляд: акрамя гэтых царкоўных будынкаў, іншыя тут узводзіцца не будуць.

Настаяцель прыхода -- айцец Уладзімір Быстракоў. Былы выкладчык медінстытута, які абараніў кандыдацкую дысертацыю па хіміі, цяпер ён ужо пяты год служыць у царкве Богу і людзям.

На жаль, расказвае а. Уладзімір, узнаўленне царквы цяпер практычна затармазілася. Узнавіць яе ўзялося Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі помнікаў рэспублікі. Але ў абласным аддзеле па рэстаўрацыі ўвагі гэтаму будаўніцтву ўдзяляюць мала. Больш таго, выявіліся факты, калі аплачаныя царкоўнай абшчынай будматэрыялы адпраўлялі на будаўніцтва жылога дома. Новыя гарадскія і абласныя ўлады пакуль ніякай дапамогі не аказалі. Наадварот, гарадскі архітэктар патрабуе знесці царкоўны кіёск з гандлёвай пляцоўкі ад універмага. А продаж абшчынай у кіёску ікон і літаратуры -- амаль адзіная крыніца збору сродкаў. Пагражаюць нават у будучыні знесці царкву св. Аляксандра Неўскага.

Такая наша сённяшняя рэчаіснасць, поўная супярэчнасцей. Нібыта і свабода, але...

НА ЗДЫМКАХ: святар У. БЫСТРАКОЎ; будаўніцтва храма на плошчы 1000-годдзя.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## МАШЫНІСТЫ-ДУБЛЁРЫ НА "ЧОРНЫ ДЗЕНЬ"

У Мінскім метрапалітэне поўным ходам ідзе падрыхтоўка дубліруючага саставу машыністаў электрапаяздоў з ліку чыгуначнікаў. Навучаныя горкім вопытам забастовачных дзён, кіраўнікі галіны ствараюць кадравы рэзерв, як гаворыцца, на "чорны дзень".

Як паведаміў начальнік лакаматыўнай службы Беларускай чыгункі Віктар Далангоўскі, машыністы электрычак з Аршанскага, Баранавіцкага і двух мінскіх дэпо ў дні нашумелай забастоўкі сталічных транспартнікаў прынялі прапанову прайсці курс стажыроўкі ў метрапалітэне і атрымаць своеасаблівую сумежную прафесію. Выбраць 63 чалавекі з больш чым трохтысячнага атрада машыністаў Беларускай чыгункі аказалася справай нескладанай.

На думку начальніка лакаматыўнай службы Беларускай чыгункі, на справе пацвердзілася, што добраахвотнікам цалкам пад сілу літаральна за лічаныя дні поўнасцю асвоіцца на новым месцы. Справа ў тым, што спецыфіка работы машыніста метро намнога прасцейшая, чым на чыгунцы. Паўнацэнна адаптавацца ў сталічнай падземцы дублёрам дапамагаюць інструктары з Маскоўскага метрапалітэна, якія прыбылі, так сказаць, па першаму клічу.

# ВЫЖЫВЕМ. АЛЕ КАЛІ БУДЗЕМ ЖЫЦЬ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І ўвесь час заставалася тут, на заводзе, таму мне асабліва горка бачыць, што робіцца сёння. Хаця, мяркую, на іншых прамысловых прадпрыемствах Беларусі стан аналагічны.

**-- Валянціна Рыгораўна, што ў такіх умовах уяўляе сабой заводскі прафсаюз? Урэшце, на вашым прадпрыемстве прафсаюзаў нават два.**

-- Прафсаюз, прынамсі, у нас -- гэта грамадская арганізацыя, куды кожны заводскі работнік можа прыйсці са сваімі праблемамі, клопатамі, нярэдка і бядой.

Сапраўды, два гады назад наш галіновы прафсаюз падзяліўся на два: застаўся, як і раней, галіновы прафсаюз работнікаў машынабудавання і прыборабудавання, куды ўваходзіць дзве трэці колькасці работнікаў завода, і ўтварыўся новы свабодны прафсаюз.

**-- І як ужываюцца "дзве гаспадыні на адной кухні"?**

-- Па першым часе існавалі непаразуменні, своеасаблівае перацягванне коўдры. І рабочым было цяжка зарыентавацца ў той сітуацыі. Але паступова наш прафсаюз пераканаўся, што хвалявацца няма чаго, за намі стаяць людзі, стаіць калектыў. І мы пачалі шукаць кампраміс са свабодным прафсаюзам.

**-- Чым апошні адрозніваецца ад вашага прафсаюза?**

-- Галоўнае адрозненне, мабыць, у большай радыкальнасці, максімалізме поглядаў. У свабодны прафсаюз уваходзяць пераважна рабочыя, у наш -- як рабочыя, так і інжынеры, тэхнікі, заводскія служачыя.

Але вернемся да ўзаемаадносін. Паступова і мы, і яны зразумелі, што, нягледзячы на існаванне дзвюх прафсаюзных арганізацый, калектыў жа ў нас агульны. І хаця зараз мы заключаем асобныя калектыўныя дагаворы з адміністрацыяй, складаюцца яны так, што ў галоўным не пярэчаць адзін аднаму і не ўшчамляюць інтарэсы ніводнага члена прафсаюза. Гэта тычыцца занятасці, аплаты і аховы працы, сацыяльных праблем. Але за выкананнем дагавораў сочаць асобныя камісіі ад кожнага прафсаюза.

Мы лічым, што сёння галоўная задача прафсаюзаў -- стварыць, прыняць максімальна палепшаную "канстытуцыю" свайго прадпрыемства -- калектыўны дагавор і кантраляваць яго выкананне.

**-- Як ваш прафсаюз ставіцца да пэўнай палітызаванасці сучаснага прафсаюзнага руху?**

-- Справа ў тым, што ўвогуле сацыяльная сфера не можа быць адарванай ад палітыкі, якая, натуральна, уплывае на настроі і погляды людзей. Хаця мы, наш прафсаюз, не выстаўляем палітычных патрабаванняў, усе тыя сацыяльныя і працоўныя патрабаванні, што выказваюць рабочыя, непасрэдна звязаны з палітыкай. Такая крайняя, вельмі непажаданая мера, як забастоўка, -- гэта ўжо фактычна палітыка.

Даволі значная апошняя забастоўка на заводзе адбылася ў лютым, калі ствараліся калектыўныя дагаворы і адміністрацыя не прымала галоўныя пункты, звязаныя з аплатай працы. Мы хацелі, каб стаўка першага разрада складала 70 працэнтаў ад пражытачнага мінімуму. Але, канешне, прадпрыемства на той момант не магло даць гэтага: энергарэсурсы, падаткі з'ядалі і з'ядаюць усё. Мы сітуацыю разумелі і, са свайго боку, таксама шукалі кампрамісы. У выніку доўгіх перамоў, эканамічных разлікаў самую нізкую стаўку на заводзе хаця і не зрабілі такой, як хацелася, але ж яна стала значна вышэйшай, чым на многіх іншых прадпрыемствах горада. Магчыма, гэтаму паспрыяла і тая мітынговая сітуацыя, якая склалася тады на заводзе. Безумоўна, таго, што мы дабіліся, усё роўна вельмі мала, бо цэны растуць і растуць. Сярэдняя зарплата высокакваліфікаванага рабочага на пачатак лета была каля мільёна рублёў у месяц. Нягледзячы на знешнюю гучнасць лічбы, гэта ўсяго тры долары ў дзень -- на такія грошы проста немагчыма ўтрымліваць сям'ю. Але ж гэтыя грошы не выплачваюцца своечасова, з-за чаго ўзнікла цяперашняе напружанне паміж рабочымі і адміністрацыяй.

Такім чынам, галоўны біч -- безумоўна, непрадуманая падатковая палітыка і, што я лічу поўным парушэннем правоў рабочага, выплата заработнай платы ў чацвёртую чаргу -- пасля выплаты падаткаў, у фонды, за энерганосьбіты.

Так, вельмі часта рабочыя недагружаны працай. Але ж яны ў тым невінаватыя. Рабочыя выконваюць свае абавязкі -- прыходзяць на працу да станкоў, праводзяць там поўны працоўны дзень. Забеспячэнне ж працай -- клопат адміністрацыі. Рабочы выконвае тое, што яму прапануе наймальнік, але заработную плату своечасова не атрымлівае -- месяц, другі. Хаця і генеральным пагадненнем, і тарыфным галіновым усё абумоўлена. Людзей літаральна падштурхоўваюць на нейкія сумніцельныя здзелкі або і проста на крадзеж: трэба ж неяк існаваць -- нешта есці, плаціць за праезд у метро, мыла купіць... Я не ведаю, што і як там разлічваюць "уверсе", але нам "унізе" даводзіцца вытрымліваць і гнеўны напор калектыву, і адміністрацыю выслухоўваць. А тыя кажуць, што аб'ём вытворчасці значна зменшыўся, заказчыкі гатовы браць абсталяванне, але і ў іх няма грошай, каб своечасова разлічвацца. Мы самі не абнаўлялі абсталяванне ўжо пяць гадоў. Грошай ледзь-ледзь хапае на абаротныя сродкі, заработную плату і падтрымку сацыяльнай сферы -- завод мае тры інтэрнаты для рабочых, тры дзіцячыя сады, піянерскі лагер, якія сёння патрабуюць каласальных выдаткаў. Але ўсё гэта вельмі цяжка тлумачыць разгубленым і раз'юшаным людзям. Ну што можна сказаць жанчыне, якую перад гэтым кантралёр высадзіў з аўтобуса, бо ехала без білета. А ехала без білета, бо грошай няма, зарплату не плацяць...

Дарэчы, у аналагічным стане і нашы заказчыкі. Ужо нават згаджаемся на аплату станкоў праз бартэр, хаця такая форма і залішне складаная, і проста нявыгадная: мы плацім двайныя падаткі, нясём транспартныя выдаткі, вельмі цяжка ідзе рэалізацыя тут. У выніку сёння ў нас стаяць вялікагрузныя аўтамабілі, ліпецкія трактары, мінскія веласіпеды... І што нам рабіць з імі? Выдаць заработную плату веласіпедамі? А дзе будзе прадаваць яго жанчына з дзіцем, каб атрымаць нарэшце грошы на хлеб і малако? Ды і ці шмат у каго сёння ёсць за што купляць той веласіпед? Зараз заводу патрэбна цэлая гандлёвая служба. Але не ведаю, ці што зробіць і яна...

Сёння нам вінны 12 мільярдаў рублёў, мы працуем, выпускаем прадукцыю, а людзі сядзяць без заработнай платы. Так, неабходна плаціць і пенсіянерам, і ўрачам, але ж нельга вытворцаў абдзіраць, як ліпку.

**-- Атрымліваецца нейкае зачараванае кола.**

-- І разарваць гэтае зачараванае кола ўсеагульнага эканамічнага крызісу павінны нашы самыя высокія кіраўнікі.

Было, што прадстаўнікі міністэрства "супакойвалі" нас такім чынам: маўляў, хто вы? Вы малое прадпрыемства. А наш, міністэрскі клопат -- вытворчыя гіганты, дзе таксама мора праблем. Вось, маўляў, калі там людзі выйдуць на вуліцу... А вашу забастоўку можна перажыць.

**-- А скарачэнне штату не з'яўляецца прычынай забастовак?**

-- У калектыўнай дамове запісана, што не па віне работніка звольніць яго можна толькі з дазволу прафсаюза. Адміністрацыя дала нам для разгляду свае прапановы па штатнаму скарачэнню. Калектыўная дамова ж прадугледжвае пункты, якія змякчаюць, мікшыруюць гэтую балючую працэдуру. Тут -- пошук унутраных рэзерваў, перанавучэнне і г.д. На ўсё даецца тры месяцы. Пакуль прапанаваны загад вывучаецца і абмяркоўваецца ў калектыве. Безумоўна, мы будзем імкнуцца ісці на скарачэнні мінімальныя, бо кожнае скарачэнне азначае адно -- выкінуць чалавека на вуліцу.



Дарэчы, маладыя, добрыя спецыялісты ідуць з завода па ўласнаму жаданню, бо, як я ўжо казала, на нашу зарплату жыць вельмі цяжка. У выніку сёння асноўны заводскі рабочы касцяк -- пенсіянеры. Моладзь не ідзе на завод увогуле, а тым больш -- на такую зарплату.

**У канцы нашай размовы, даволі сумнай, мне здавалася, што Валянціна Рыгораўна павінна была яе закончыць словамі "цяжка, вельмі цяжка" -- іх сёння чуеш у нас паўсюдна. Так і атрымалася -- сказала. Але сказала не са стогнам і бяссіллем, а энергічна, нават дзелавіта. Усё гэта нагадвае мне расказы пра тое, што, каб засцерагчы чалавека ад атручэння, яму доўгі час па мізэрнай долі даюць гэтую самую атруту піць, і потым арганізм ужо не рэагуе нават на смяротную дозу. Вось так і нашы людзі: здаецца, настолькі прызвычаіліся да ўсіх неспрыяльных умоў жыцця, што ўжо толькі канстатуюць іх як факт, але ў разлік асабліва не бяруць, бо яны для нас норма. Не ведаю, як да гэтай з'явы ставіцца, падобны стан больш нагадвае не жыццё, а выжыванне, і будзе вельмі шкада, калі наша краіна да гэтага прызвычаіцца. Тут "happy end" не будзе.**

Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.

*ГІСТАРЫЧНАЯ РЭТРАСПЕКТЫВА*

# 1939 ГОД: ДРАМА, ШТО ПЕРАРАСЛА Ў ТРАГЕДЫЮ

У ДНІ ЧАРГОВАЙ гадавіны савецка-германскага пакта аб ненападзенні і наступнага нападзення Гітлера на Польшчу слушныя па меншай меры два позіркі на падзеі: з двух жніўняў -- 39-га і 95-га гадоў.

Розныя ацэнкі даюць гісторыкі і палітыкі гэтаму дакументу. На думку адных, ён быў непазбежны для Савецкага Саюза і ўяўляў буйную дыпламатычную перамогу, іншыя лічаць, што ён адкрыў шлях Гітлеру да сусветнай вайны, а СССР у рэшце рэшт не атрымаў ніякіх выгад ад адтэрміноўкі нямецкага нападу. Ёсць і меркаванні аб нявыкарыстаных шансах у справе дагаворанасці з заходнімі краінамі ці пазіцыі нейтралітэту.

Але другі погляд, з жніўня 95-га, больш важны, таму што, адкрываючы далячынь амаль усяго XX стагоддзя, ён дазваляе падвесці запозненыя вынікі, вяршыць суд гісторыі з вышыні пройдзенага шляху.

Больш за ўсё спрэчак выклікае да гэтага часу загадкавы сакрэтны пратакол. Быў ён ці не быў? Выяўленыя на сённяшні дзень факты пацвярджаюць яго існаванне.

Першае. Выяўлена ўнутрыміністэрская службовая запіска, якая фіксуе перадачу ў красавіку 1946 года арыгіналаў сакрэтных пратаколаў адным з памочнікаў В.Молатава другому. Так што цяпер няма сумнення, што арыгіналы ў нас былі. Аднак дзе яны? Сляды губляюцца.

Другое. Былі знойдзены завераныя машынапісныя копіі пратаколаў на рускай мове. Гэта менавіта машынапісныя копіі, якія па знешняму выгляду адрозніваюцца ад заходнегерманскіх копій, але па зместу поўнасцю супадаюць з імі.

Трэцяе. Спецыялісты яшчэ ў свой час правялі экспертызу подпісаў Молатава на арыгінале дагавора аб ненападзенні і фотакопіі сакрэтнага пратакола і прыйшлі да высновы аб іх ідэнтычнасці. Па заключэнню тых жа спецыялістаў, дакументы, з якіх зняты нямецкія фотакопіі, былі надрукаваны на той жа машынцы, што і арыгінал дагавора, які захоўваецца ў архівах былога МЗС СССР.

Чацвёртае. Наяўнасць завізіраванай Сталіным размежавальнай карты і дакладна адпавядаючай пратаколу. Акрамя таго (і гэта, бадай, самае галоўнае) -- падзеі развіваліся па сцэнарыю, распісанаму ў гэтых пратаколах.

У палітыцы не бывае дробязяў. Гэта пацвердзіў эпізод з далёкай дыпламатычнай практыкі, калі ў Берліне быў наладжаны навагодні прыём дыпламатычнага корпуса. У трыццаць дзевятым годзе на ўсіх важных дакументах Германіі абавязкова ўказвалася -- "Новая імперская канцылярыя". У гэтым вялікім і пышна аздобленым будынку і адбыўся прыём.

Гасцей прымаў сам Адольф Гітлер. Як звычайна, згодна з пратаколам, ён па чарзе паціскаў руку дыпламатам, іншы раз абменьваючыся кароткімі рэплікамі. Але калі падышла чарга савецкага паўпрэда А.Меракалава, не толькі затрымаў руку пры поціску, але і пагутарыў некалькі хвілін.

Мае сэнс успомніць, у якія часы адбываўся гэты, увогуле звычайны прыём. Становішча ў свеце трывожнае. Года не праходзіла без вайны. Спачатку Італія ўварвалася ў Абісінію, потым Японія напала на Кітай. Неспакойна было і на савецка-японскай мяжы...

Становішча гэтых дзён адлюстроўваюць фрагменты тэкстаў пасланняў, якімі абмяняліся ў тыя дні Гітлер і Сталін.

"Пану Сталіну, Масква... Заключэнне пакта аб ненападзенні з Савецкім Саюзам азначае для мяне ўстанаўленне германскай палітыкі на доўгі перыяд. Германія тым самым зноў прымае палітычную лінію, якая на працягу стагоддзяў была дабратворнай для абедзвюх дзяржаў..."

"Рэйхсканцлеру Германіі пану А.Гітлеру.

Дзякую за пісьмо.

Спадзяюся, што германа-савецкі пакт аб ненападзенні прывядзе да павароту ў бок сур'ёзнага паляпшэння палітычных адносін паміж нашымі краінамі. Згода германскага ўрада на заключэнне пакта аб ненападзенні стварае падставы для ліквідацыі палітычнага напружання і для ўстанаўлення міру і супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі..."

Дваццаць трэцяга жніўня пакт аб ненападзенні быў заключаны, дадатковы пратакол, што стаў сакрэтным, падпісаны. Рыбентроп па шляху дамоў даваў інтэрв'ю ў аэрапорце Кёнігсберга: "Фюрэр паслаў мяне ў Маскву. Магчыма, гэта з'явілася нечаканасцю для многіх у Германіі. Аднак мы, нацыянал-сацыялісты, ведаем, што ўсё, што робіць фюрэр, -- правільна. Расію зазывалі ў кальцавы фронт (у антыгітлераўскую кааліцыю). Але фюрэр яшчэ раз спрацаваў імгненна. Ён вырваў Расію з гэтага фронту. Вось вынікі гэтага 24-гадзіннага візіту".

Трыццаць першага жніўня Вярхоўны Савет аднагалосна ратыфікаваў дагавор. "Мы перасталі быць ворагамі", -- сказаў на сесіі Молатаў. Аб дадатковым пратаколе, вядома, не было сказана ні слова.

У гэты ж дзень дагавор ратыфікавалі і ў Берліне. Там таксама спяшаліся. Праз суткі Германія напала на Польшчу...

Сёння яшчэ мала вядома, што ўжо 28 жніўня 1939 года паміж СССР і Германіяй быў падпісаны Дагавор аб дружбе і межах, які адыграў трагічную ролю ў лёсах соцень тысяч беларусаў, палякаў і іншых нацыянальнасцей, што жылі ў заходніх абласцях Беларусі.

Больш таго, тады ж, 28 жніўня, Молатаў і Рыбентроп падпісалі сакрэтны дадатковы пратакол да дагавора, які канстатаваў, што... "абодва бакі не будуць дапускаць на сваіх тэрыторыях ніякай польскай агітацыі... Яны будуць ліквідоўваць на сваіх тэрыторыях усе крыніцы падобнай агітацыі і будуць інфармаваць адзін аднаго аб мерах, прынятых з гэтай мэтай".

Як зразумець "яны будуць ліквідоўваць?" Аказваецца, з гэтай мэтай СД на тэрыторыі Заходняй Беларусі па ўказанню імперскага міністэрства бяспекі ўступіла ў цесны кантакт са службамі НКУС. З гэтай мэтай у Закапанэ быў створаны сакрэтны сумесны вучэбны цэнтр, у якім эсэсаўцы і нкусаўцы спасцігалі "навуку" барацьбы з польскім супраціўленнем.

Але ў той час яшчэ заставалася нявырашаным пытанне аб перасяленні беларусаў, рускіх з тэрыторыі Польшчы, якая адышла да Германіі, і немцаў адпаведна з тэрыторый, якія адышлі да СССР. Гэта таксама было вырашана ў Маскве 28 жніўня 1939 года і вылілася ў падпісанне канфідэнцыяльнага пратакола.

Пагадненне, якое падпісалі старшыня ўрадавай камісіі па эвакуацыі М.Літвінаў і старшыня ўрадавай германскай дэлегацыі Курт фон Рампбебенер, прадугледжвала яшчэ ў верасні 1939 года "пачаць эвакуацыю ўсіх грамадзян украінскай, беларускай і рускай нацыянальнасцей, якія пражывалі на тэрыторыях былой Польшчы і цяпер знаходзіліся ў межах дзяржаўных інтарэсаў Саюза ССР". Эвакуацыі, згодна з дакументам, "падлягалі толькі тыя асобы, якія выказвалі сваё жаданне эвакуіравацца". Ці так гэта на самай справе?

Кастрычнік 1939 года. "Нас было дваццаць восем мужчын і тры жанчыны... Усе твары ад страху здаваліся застылымі. Мы стаялі і глядзелі на чыгуначны мост, які падзяляў занятую немцамі Польшчу і яе частку, акупіраваную рускімі. Праз мост да нас павольна крочыў ваенны. Калі ён падышоў бліжэй, я разгледзела эсэсаўскую фуражку. Афіцэр НКУС і эсэсавец віталі адзін аднаго, прыклаўшы руку да казырка. З вузкай светла-карычневай сумкі афіцэр НКУС выцягнуў спіс і стаў называць прозвішчы. У гэты момант ад нашай групы аддзяліліся трое, кінуліся да нкусаўца і сталі нешта ўсхвалявана яму тлумачыць. Побач са мной нехта прашаптаў: "Адмаўляюцца пераходзіць мост!"...

Гэта ўрывак з кнігі ўспамінаў Маргарэт Бубер-Нойман "Вязніца Сталіна і Гітлера", што выйшла ў Франкфурце-на-Майне ў 1949 годзе. Сёння мы ўсё больш і больш даведваемся пра некаторыя рэальныя падрабязнасці сталінска-гітлераўскіх гульняў -- да і пасля пакта 1939 года.

Менавіта пасля пакта 1939 года сітуацыя з высылкай мяняецца. Цяпер германскае пасольства ўжо не просіць і не асцярожнічае, яно патрабуе: "...сапраўдныя дружалюбныя адносіны паміж III рэйхам і СССР несумяшчальныя з тым, каб такая колькасць германскіх падданых знаходзілася ў савецкіх турмах". Германскае пасольства не называе імёнаў, не патрабуе канкрэтных асоб, такім чынам, НКУС мог дзейнічаць паводле свайго меркавання.

Нарэшце 27 лістапада заключаецца адпаведнае пагадненне. І адпраўляецца першая группа -- "калядны падарунак" НКУС гестапа. Цяпер размова ішла ўжо не аб высылцы людзей, а аб іх прамой перадачы з рук у рукі. Да 1939 года высылаемаму ўсё ж выдаваўся пашпарт, хаця і з кароткатэрміновай візай. Быў шанс уцячы па дарозе: агульнай мяжы з Германіяй не было. Пасля пакта -- ужо ніякіх пашпартоў: агульны дакумент, адзін на ўсіх. Ён перадаваўся (разам з указанымі ў ім асобамі) афіцэрам НКУС афіцэру гестапа на мосце ў Брэсце.

Са снежня 1939-га па красавік 1941 года НКУС і гестапа ўступілі ў непасрэдны кантакт. Цяжка ўявіць, што адбывалася з людзьмі, якія трапілі ў гэтае чортава кола. Тых, каго збіраліся выдаваць немцам, прымушалі як бы станавіцца агентамі НКУС і падпісаць, напрыклад, фіктыўныя распіскі ў атрыманні грошай, а тым, хто адмаўляўся, -- пагражалі, што дадуць на іх кампраметуючы матэрыял у гестапа.

Але калі выдача і на самай справе адбывалася без праблем, то так званае "перасяленне" ажыццяўлялася няпроста. Аб жудасных эпізодах, звязаных з гэтым перасяленнем, у нас вядома мала: усё замазала вайна, што пачалася неўзабаве. Што гэта было?

У адпаведнасці з пагадненнем, падпісаным германскім і савецкім бакамі 16 лістапада 1939 года, ажыццяўлялася перасяленне ў Германію жыхароў нямецкага паходжання з тэрыторыі Заходняй Беларусі і Украіны, а ў СССР -- беларусаў і ўкраінцаў генерал-губернатарства.

З германскага боку гэтым займалася каманда па перасяленню, што складалася галоўным чынам з эсэсаўцаў. На працягу двух месяцаў яна зусім свабодна дзейнічала на савецкай тэрыторыі і кантралявала сумесна з адпаведнымі службамі НКУС масавае перасяленне асоб нямецкага паходжання.

Самае цяжкае чакала яўрэйскае насельніцтва гэтых мясцін. Ёсць некаторыя весткі пра яўрэяў, якія перасяліліся з нямецкага на савецкі бок у канцы кастрычніка 1939 года і з красавіка 1940 года пры абмене бежанцаў. З нямецкага боку гэта было больш за 60 тысяч чалавек, а з савецкага -- 14 тысяч. Змешаная кантрольна-прапускная камісія працавала ў Брэст-Літоўску, Уладзіміры-Валынскім, Перамышлі, Ковелі і Львове. Што тычыцца нацыянальнасці, то яна не ўказвалася, бо большасць перасяленцаў працавалі на тэрыторыях, занятых Германіяй, з'яўляліся грамадзянамі генерал-губернатарства. Па ацэнцы нямецкага боку, каля 164 тысяч чалавек пажадалі перайсці ў нямецкія вобласці. Прытым гэта былі ў асноўным палякі, што да гэтага часу пражывалі ў абласцях, якія ўяўлялі цікавасць для СССР.

5 снежня 1939 года генерал-палкоўнік Кейтэль паведамляў у германскае МЗС: "Высяленне яўрэяў на рускую тэрыторыю праходзіла не так гладка, як, мусіць, чакалася. На справе практыка была, напрыклад, такой: у ціхім месцы ў лесе тысяча яўрэяў была выселена за рускую мяжу, за 15 кіламетраў ад гэтага месца яны зноў вярнуліся да мяжы з рускім афіцэрам, які хацеў прымусіць нямецкага прыняць іх назад".

Вайна, што пачалася ў чэрвені 1941 года, падвяла рысу пад гэтым "мірным супрацоўніцтвам". Многіх эмігрантаў, ужо прызначаных да выдачы, не паспелі давезці да Брэста з далёкіх лагераў, ім заставалася даседзець яшчэ з дзесятак гадоў. У тых, каго выдалі, лёс складваўся па-рознаму. Наконт гэтага ў Германіі былі распрацаваны канкрэтныя інструкцыі: тых, супраць каго меўся кампраметуючы матэрыял, чакаў канцлагер, "незаплямленыя" і той, хто падыходзіў па ўзросту, прызываліся ў вермахт, яўрэі адназначна падлягалі дэпартацыі ў гета, а адтуль -- у лагеры знішчэння.

Калі браць жнівень 39-га, то з нашага часу выразна відаць, што другая сусветная вайна была непазбежнай. Але гэта толькі на першы погляд. Магчыма, калі б Савецкі Саюз не падпісаў пакт, а заявіў аб процідзеянні агрэсару, падзеі маглі развівацца зусім па іншаму сцэнарыю.

Са жніўня 95-га выразна, як на далоні, відаць жнівень 39-га, чэрвень 41-га, май 45-га і многія іншыя памятныя даты. Гістарычная рэтраспектыва яснейшая за перспектыву, у чым мы не раз пераконваліся на шляху да "ззяючых вышынь". Відаць, пакуль існуе не толькі "чыстая навука", але і палітыка, і нянавісць, і сімпатыі, мы не адмовімся і ад маральных ацэнак нашага мінулага, сучаснага і будучыні. Калі б толькі помнілі людзі першае правіла любой этыкі -- не нашкодзь...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**НОТА МЗС УКРАІНЫ**

## ЦІ ВЕРНЕЦЦА ДАМОЎ БІБЛІЯТЭКА ХРАПТОВІЧА-БУЦЯНЁВА?

Дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны нашай рэспублікі атрымала ноту Міністэрства замежных спраў Украіны, у якой абгрунтоўваецца немагчымасць перадачы Беларусі бібліятэкі графа Храптовіча-Буцянёва. Сабраная графам у мінулым стагоддзі, яна змяшчае рукапісы, знойдзеныя на нашай тэрыторыі старажытныя кнігі, а таксама калекцыю еўрапейскіх рарытэтаў, набытую Храптовічам-Буцянёвым у Рыме.

Дзяржаўны дзеяч, эканаміст, філосаф, паэт, музыказнаўца Храптовіч-Буцянёў імкнуўся стварыць у мястэчку Шчорсы, што каля Навагрудка, культурны цэнтр накшталт Радзівілаўскага ў Нясвіжы або сядзібы Агінскіх у Слоніме. Да яго прыязджалі папрацаваць над рукапісамі даследчыкі з усяго свету. Па форме гэта быў прыватны збор, але па сутнасці -- праабраз публічнай нацыянальнай бібліятэкі.

Цяпер гэтыя каштоўнасці знаходзяцца на тэрыторыі Украіны. Беларускі бок прыклаў ужо нямала намаганняў, каб вярнуць іх. Як, зрэшты, і іншыя прадметы з нацыянальнага культурнага здабытку. Вядома, што праблема вяртання культурных каштоўнасцей на сваю тэрыторыю вельмі востра стаіць перад многімі краінамі свету. І ўсё ж Беларусь апынулася ў самых складаных умовах: па розных гістарычных прычынах з тэрыторыі рэспублікі было вывезена вельмі многа твораў мастацтва, бібліятэчных і архіўных фондаў. А ў нашых запасніках для раўназначнага абмену з іншымі краінамі нічога чужога практычна няма.

З просьбай пракаменціраваць сітуацыю, якая склалася вакол бібліятэкі Храптовіча-Буцянёва, карэспандэнт Белінфарма звярнуўся да старшыні Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрыя Бубноўскага.

-- Як сцвярджаюць даследчыкі, пан Храптовіч-Буцянёў, паміраючы, завяшчаў сваю бібліятэку беларускаму універсітэту, што будзе адкрыты першым, -- адзначыў Дзмітрый Сямёнавіч. -- Існуюць самыя разнастайныя тлумачэнні гэтага завяшчання, і да сённяшняга дня я не ведаю ні аднаго спецыяліста, які трымаў бы яго ў сваіх руках. Пакуль ёсць толькі цэлы шэраг літаратурных спасылак на гэта завяшчанне.

Украінскі бок, спасылаючыся на літаратурныя крыніцы, указвае, што ў 1913 годзе Храптовіч-Буцянёў паставіў умову, у адпаведнасці з якой з выпадку адкрыцця універсітэта ў Вільні кніжны збор павінен перайсці гэтай навучальнай установе. Тады гэты горад быў бясспрэчным духоўным цэнтрам беларускай нацыі, і ў тыя гады ніхто не думаў, што першы беларускі універсітэт адкрыецца дзесьці ў іншым месцы. А да яго паяўлення, як сцвярджае МЗС Украіны, граф пажадаў перадаць сваю бібліятэку такой установе, у якой яна была б даступная шырокім колам вучоных,і выбраў для гэтага Кіеўскі універсітэт. Магчыма, гэта і так. Беларускія спецыялісты вывучаць фактычны бок справы.

-- Але самае галоўнае цяпер, -- падкрэсліў Дзмітрый Бубноўскі, -- знайсці арыгінал завяшчання або хоць бы яго завераную копію, каб удакладніць волю ўладальніка гэтага рэдкага збору кніг і рукапісаў. Знайсці іх даволі складана, аднак існуе методыка пошуку, і я лічу, што нашы намаганні могуць увянчацца поспехам. Калі пытанне вяртання збору Храптовіча-Буцянёва для беларускага боку вырашыцца станоўча, то наша Нацыянальная бібліятэка, утвораная на базе бібліятэкі БДУ, мае ўсе падставы прэтэндаваць на гэту унікальную калекцыю. А пакуль мы можам толькі шкадаваць, што гэтыя фонды ў свой час пакінулі нашу тэрыторыю.

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




-- Дык я дапамагу табе.

-- Добра. Вазьмі маю ношку.

Ён ссунуў ношку зь плячэй на траву. Хвіліну памаўчаў, а пасьля прагаварыў:

-- Бяры ношку і пакладзі на кургане... Разумееш?.. Сваю таксама... Інакш няма як... Потым пашлю за імі... Будзь упэўнены!..

Я ўзьняўся на ўзгорак і паклаў ношкі. Пасьля вярнуўся да перамытніка.

-- Здолееш занесьці мяне ў мястэчка? -- хрыпла запытаў ён.

-- Чаму ж не? Адпачываючы, можна.

Ускінуўшы яго на плечы "на барана", павольна пакрочыў праз поле ў напрамку Ракава. Зрэдку перамытнік удакладняў мне дарогу: "Управа!.. Улева!" І так памалу пасоўваліся наперад у начным змроку. Час ад часу перамытнік стагнаў ад болю, асабліва калі я чапляўся або падкідваў яго на плячах.

Данёс да могілак. Тут адпачылі, потым панёс далей. Дарога цягнулася бясконца. Я вельмі стаміўся.

Нарэшце ўвайшоў у нейкі завулак, а пасьля на падворак вялікай хаты. Тут, побач з вакном, апусьціў яго на зямлю. Ён паціху пастукаў у шыбіну. Неўзабаве зь сярэдзіны данёсься незадаволены жаночы голас:

-- Хто стукае?

-- Адчыні, Фэля! Жвава!

-- Зараз... Пасьпееш...

Мы апынуліся ў будынку. Гэта была ладная пярэдняя хата, меншую частку якой займала разьвешаная бялізна. Справа я ўбачыў двое дзьвярэй: адны на кухню, другія да кутняга пакоя.

Фэля -- сястра Сашкі Вэбліна запаліла лямпу і шчыльна занавесіла вокны. Калі пры сьвятле зірнуў на яе, дык зьнерухомеў, не зводзячы вачэй. Гэта была высокая, смуглая жанчына гадоў 28. На яе плечы ападалі густыя чорныя валасы, заплеценыя ў косы. Была распранутая: усьцягнула спадніцу і на нагах мела хатнія тапці, але ўвогуле не зважала на маю прысутнасьць. Круцілася па пакоі, штосьці парадкуючы. У яе быў дзівосны твар -- падоўжаны, матава-белы, правільны, які меў нейкі асаблівы выраз годнасьці. Яго аздаблялі вялікія выразныя вочы, цёмныя бровы і з прыгожым абрысам вусны. Асабліва зачароўвалі яе агаленыя плечы і смуглая шыя. Дасюль не бачыў прыгажэйшай жанчыны. Так мне здавалася, і так тады думаў. І сапраўды -- Фэля Вэблінянка была найладнейшай дзяўчынай мястэчка. Каханьнем да яе згаралі ўсе тутэйшыя хлопцы. Аднак вельмі хутка астывалі ад яе жарцікаўдосьціпаў і пад халодным, пагардлівым поглядам прыгожых зялёных вачэй, у якіх жыла незвычайная моц, што прывablівала і... палохала. Глядзецца ў іх -- як у прорву!

Фэля дапамагла мне пакласьці Сашку на канапу і пачала нажніцамі распорваць яму бот на правай назе. Нахіліўшыся, я стаяў побач. Сачыў за рухамі поўных, зграбных рук, якія ясьнелі агаленай прывабнасьцю. Нечакана яна перапыніла сваю працу -- заўважыла мой сквапны погляд і амаль крыкнула:

-- Чаго ўставіўся? Дапамагай!.. Адзін клопат, халера!.. Трэба павесіцца!

-- Ну, ты супакойся! -- са злосным бляскам у вачах сказаў ёй Сашка. -- Бо я цябе зараз утаймую.

Фэля кінула нажніцы на канапу і выйшла ў бакоўку. Праз хвіліну вярнулася, зашпіляючы на грудзях блузку. Яе твар зьмяніўся да непазнавальнага. Вочы холадна зьзялі. Вусны былі моцна сьцяты.

Калі здымалі бот з вывіхнутай нагі, Сашка ад болю пагрыз да крыві вусны; потым ён зьвярнуўся да сястры:

-- Скокні хуценька да Жывіцы. Каб ён зараз жа быў тут! Калі не застанеш Жывіцу ў хаце, ляці да Маманта. Але на адной назе... Пайшла!

Нешта буркаючы, Фэля апранула паліто і захінула галаву вялікай цёплай хусткай. Грукнуўшы дзьвярыма, выйшла з хаты.

-- Зьмяя, пся крэў! -- выгукнуў Сашка і пачаў аглядаць вывіхнутую ў костцы і моцна апухлую нагу.

Сашка Вэблін быў самым вядомым перамытнікам на пагранiччы -- ад Радашковіч да Стоўбцаў. Паколькі добра ведаў і абодва пагранiччы, ён быў дасканалым праваднікам, але яго баяліся і купцы, і большасьць перамытнікаў. Баяліся за празьмерную, проста шалёную адвагу, якая штурхала яго на незвычайныя, амаль бессэнсоўныя ўчынкі. Ён меў шмат ворагаў у мястэчку і на пагранiччы, якія, ненавідзячы яго, аднячасова і паважалі гэтага караля перамытнікаў. Ён меў некалькі адданых яму сяброў, якія палюбілі яго за адвагу, за шырыню жыцьця, за марнатраўства і за "фантазію". Найбліжэйшым ягоным прыяцелем быў Жывіца, самы моцны мужчына на пагранiччы. Той быў поўнай супрацьлегласьцю Сашкі, і я неаднойчы зьдзіўляўся, што магло аб'ядноўваць гэтых людзей з такімі адметнымі характарамі.

Сашку было трыццаць пяць гадоў. Высокі і худы, ён хадзіў нахіліўшыся ўперад. Меў шэрыя, заўсёды прыжмураныя вочы, а ў іх праглядалі такія глыбіні, што лепей туды было не зазіраць. Звычайна ён часта сьмяяўся і жартаваў, аднак рабіў гэта толькі адной мімікай твару... Вочы заставаліся заўсёды халоднымі. Усьмешка выглядала як грымаса.

Ня раз Сашка зарабляў вялікія грошы. Аднак з такім бяспамяцтвам раскідваў іх, што праз некаторы час зноў нічога ня меў. Ніхто з такім азартам не гуляў у карты, як ён! Ніхто не даваў жанчынам столькі грошай! Ніхто столькі не прапіваў.

Калі я застаўся адзін на адзін з Сашкам, ён, гледзячы на апухлую нагу, доўга маўчаў і чамусьці ўсьміхаўся, а пасьля вымавіў:

-- Наша фартуна ходзіць па крузе, то трэсне ў морду, то плюне ў вочы!

-- Гэта так, -- пацьвердзіў я ягоныя словы.

-- Гэта Юзіку пагналі ката ў Альшанцы? -- запытаўся ён праз хвіліну.

-- Яму.

-- Колькі вас было? Дзесяць?

-- Адзінаццаць.

Паківаў галавой.

-- Ну і ну!.. Ці ўсе вернуцца?.. Масалкі густа секлі!..

-- Хтосьці таксама валіў у іх.

Ён падняў на мяне вочы.

-- Кажаш, нехта сёк па іх з капыта?

-- Так.

-- Гэта і добра... Бо занадта сьмеласьці набраліся!.. Забыліся, што ёсьць граніца і што мы фартуем... Палявалі б як на зайцоў...

Я не зусім яго зразумеў.

Неўзабаве вярнулася Фэля, а сьледам у хату, сьпяшаючыся, увайшоў моцны мужчына гадоў трыццаці. Яго магутнасьць скрадваў чорны гарнітур, але і пад адзеньнем адчуваліся сталёвыя скруткі цягліц.

Гэта быў слынны перамытнік Жывіца, які за граніцу насіў па тры ношкі за раз. Мамант таксама быў вельмі моцны, аднак нязграбны, а Жывіца, пры магутным збудаваньні, быў надзвычай спрытным. Пра яго мне апавядалі такую гісторыю. Аднаго разу Жывіца заклаўся па п'янцы з Юрліным -- досыць заможным машыністам перамытнікаў, што перанясе яго каня зь Віленскай вуліцы на Мінскую да хаты сваёй маткі, дзе ён жыў. Калі б занёс гэтага каня, дык той стаў бы яго ўласнасьцю, калі б не -- прайграў бы Юрліну пяцьдзесят рублёў золатам. Каню зьвязалі пярэднія і заднія ногі. Жывіца падлез пад ніз і падняў яго. Крыху пахілены, прытрымліваючы вяроўкі, якімі быў звязаны конь, ён павольна крочыў па вуліцы. Прайшоў большую частку дарогі, аднак на Рынку конь неспадзявана тузануўся -- і абое паваліліся на зямлю. Жывіца прайграў заклад, хоць мог і выйграць. Ламаньне падкоў і сярэбраных рублёў было для яго забаўкай.

Вось гэтага чалавека я бачыў перад сабой. Ён меў лагодны твар, зь якога весела і добразычліва паглядалі добрыя, дзіцячыя вочы. Шырокія, густыя бровы былі высока прыпаднятыя ўгару. У яго была вельмі прыемная ўсьмешка. Калі гэта ўсьмешка зьяўлялася на твары, дык цяжка было не адказаць на яе. Я заўважыў, што яму вельмі цяжка давалася выказваць свае думкі, чым нагадваў Маманта, які ўвогуле не размаўляў, а жэстыкуляваў.

Жывіца наблізіўся да канапы, на якой ляжаў Сашка, і, відавочна занепакоены, запытаўся ў яго амаль шэптам:

-- Ну і што?.. Што з табой?.. Га?..

-- Нічога... Падвіхнуў сабе нагу... Быў шухер... Даваў квінта... У Альшанцы масалкі падвярнуліся. Нарабілі гаю як халеры! Уцякаючы, зачапіўся за пень... Гэты прывалок мяне дахаты... Ня ведаю, як бы сам далез сюды.

Сашка рухам галавы паказаў у мой бок, Жывіца весела зірнуў на мяне і, бліснуўшы вачыма, пацiснуў у лакці маю руку так, што тая забалела, а пасьля кіўнуў:

-- Гэта муравана!.. Так!.. Гэта я разумею!..

Пазьней Сашка сказаў Жывіцу:

-- Схадзі забяры ношкі... Дзьве ношкі, яго і маю... Пойдзеш да Капітанскай Магілы, там яны ляжаць на кургане, на зямлі... Прывалачэш сюды!

-- Добра... Зараз...

Жывіца сарваўся зь месца і пакрочыў да дзьвярэй.

-- Вазьмі комін, -- вымавіў Сашка. -- Магчыма, хто трапіцца.

Жывіца з хвіліну стаяў каля парога, разважаючы, а пасьля, махнуўшы даланёй, паказаў на ўсю шырыню ўсьмешкі свае зубы і адказаў:

-- Не трапіцца...

Праз гадзіну Жывіца вярнуўся. Прынёс абедзьве ношкі. Рухаўся зь імі без напругі. Яго твар быў заліты потам, бо вельмі сьпяшаўся. Пакінуў іх каля парога і асьцярожна прысеў на канапу каля Сашкі. Фэлі ў пакоі не было. Калі прыйшоў Жывіца, Сашка загадаў ёй класьціся спаць. Нейкі час Жывіца ўзіраўся мне ў твар, а потым запытаўся:

-- Ты чый?

-- Юзіка Трафіды, са Слабодкі, сябра, -- адказаў за мяне Сашка. -- Здаецца, таксама залаты хлопец.

-- Ну і клёва! -- вымавіў Жывіца, стукнуўшы мяне даланёй па калену.

-- Зрабі што-небудзь пашамаць! -- сказаў Сашка Жывіцу. -- Гарэлка, хлеб і каўбаса ў шафе, агуркі ў місцы на паліцы... З нагой раніцай разбяромся. Фэлька пакліча фельчара... Пацярплю... Мне ўжо ня так баліць...

Жывіца паставіў на стол шклянкі і талеркі, а потым падсунулі яго да канапы. Утрох выпілі чатыры пляшкі гарэлкі. Пасьля Сашка запытаўся ў мяне:

-- Што хочаш зрабіць з ношкай?

-- Аддам Юзіку... Гэта чужы тавар...

-- Тавар зараз твой!.. -- выразна вымавіў Сашка. -- Гэта не "агранда"*. Ніхто не аддасьць... хіба дурань!.. Гэта твой фарт. Разумееш? Жыда халера не возьме!.. Раз-два адкуецца! А ты крыху кадзіла раздзьмухаеш!.. Зразумеў?

-- Я ў Юзіка запытаю.

-- Добра. Запытайся. А ношку можаш пакінуць у мяне. Я піхну за граніцу. Яшчэ і на гэтым заробіш... Заўтра мне скажаш... Я вашага купца добра ведаю. Гэта жмінда! Яго шчасьце, што з Трафідай працуе! Ладныя тысячы зарабіў... Калісьці (два гады назад) Шлёма Бэргер рызманамі і бутэлькамі гандляваў. А зараз Шлёма Бэргер грос купец: у Вільні крамы адчыняе і камяніцы купляе!

Замоўк. Задумаўшыся, ён доўга глядзеў у кут пакоя. Потым вымавіў:

-- Ну, дык ідзі сабе!.. А заўтра скажаш... Я хачу, каб ты больш зарабіў.

Разьвітаўшыся з Сашкам і Жывіцай, я пайшоў дахаты.

Юзік яшчэ ня спаў. Калі пастукаўся ў дзьверы пакоя, за вокнамі якога заўважыў сьвятло, сябра сам адамкнуў дзьверы і ледзьве не задушыў мяне ў абдымках:

-- Гэта, брацейка, клёва!.. А я ўжо думаў халера ведама што!.. Лазіў дзьве гадзіны па пагранiччы -- цябе шукаў... Амаль не папаўся... А ты сам... Ну, апавядай, як там было?

Калі падрабязна расказаў пра сваё блуканьне па лясах, пра сустрэчу з Сашкам на пагранiччы, як і пра ўсё, што адбылося пазьней, Юзік задумаўся... Праз хвіліну вымавіў:

-- Ведаеш, брат, клёвыя гэта хлопцы, і ты добра зрабіў, што дапамог яму. Але з Сашкам не сыходзься, бо гэта сарвігалава! Зь ім не адзін загінуў! Гэтая "кампанія" не для цябе! Так!

-- Ён увогуле не запрашаў рабіць разам...

-- Ну і клёва! А з таварам табе добра пашанцавала! Ён прадасьць за граніцай, бо калі тут "пойдзе па блату", дык ты мала атрымаеш. Сашка ў пяць разоў болей возьме. Ён табе хоча дапамагчы. Бачыць, што хлопец ты што трэба, ну, і таго...

-- Дык я раніцай схаджу туды.

-- Добра.

-- А я думаў, што тавар трэба вяртаць.

Юзік усьміхнуўся і сказаў тое самае, што я нядаўна пачуў ад Сашкі:

-- Гэта не агранда! Бэргера д'яблы не возьмуць. За дзьве партыі ўсё верне. А мы крыху падкуёмся... Пару хлопцаў сапраўды кінулі ношкі... Можа, вып'еш?

-- Не. Я выпіў у Сашкі разам з Жывіцай.

Праз хвіліну Юзік з усьмешкай запытаў:

-- Ты Фэлю бачыў?

-- Бачыў.

-- Ну, як табе, спадабалася?

-- Ладная!.. Вельмі ладная!

-- Так, так... Дзеўка -- маляваная, але ўрэдная, халера! Ты туды пойдзеш, дык не захапіся. Яна любіць хлопцам галовы круціць.

-- На мяне нават не глядзела.

-- Яна ні на кога не глядзіць, бо вочы паскудныя мае... Ашалееш, як у іх зазірнеш!

Трафіда ўздыхнуў і замоўк. Магчыма, і ён быў у яе закаханы.

Калі мы пайшлі спаць, я доўга ня мог заснуць. Перад вачыма праплывалі розныя малюнкі і постаці. Бачыў то сем цудоўных зорак у сузор'і Вялікай Мядзьведзіцы, то камічны твар Ёські Гусяра, то Салаўя, які сьпявае, то Лорда, які жартуе, то Антося, які іграе на гармоніку, то Сашку, то Жывіцу. Нарэшце ўсіх засланіла Фэля. Мела прыгожыя аголеныя плечы, выдатны годны твар, чорныя валасы... І так прыемна мне ўсьміхалася!

## 5

Назаўтра, пасьнедаўшы, пайшоў да Сашкі. Ёд адпачываў на канапе. Нага была забінтавана.

-- Як маешся? -- запытаўся ў яго.

-- Добра. Быў фельчар, агледзеў мне нагу. За пару дзён ужо можна будзе хадзіць.

-- Выдатна!

-- Ну, як там з таварам?

-- Мне ўсё роўна. Юзік сказаў, што ты найлепей апыліш. Але я не хацеў бы дадаваць табе клопату.

-- Які там клопат... Апылю разам з маім таварам. Тыдзень пачакаю... А можа, табе зараз сармак патрэбны?

-- Маю крыху... Для мяне хопіць.

-- Ну і клёва!

У пакой увайшла Фэля. Яна была ў прыгожай цёмна-сіняй сукенцы і лакіраваных чаравіках. Я прывітаўся зь ёю. Заўважыў, што ў яе залёныя вочы. Яна пачала прыбіраць у пакоі. З прыемнасьцю сачыў за яе зграбнымі рухамі. Некалькі разоў зкоса зірнула на мяне.

Праз нейкі час Сашка спытаў у сястры:

-- Пойдзеш у касьцёл?

-- А як жа!.. Пайду...

-- Адна?

-- А з кім?

-- Вось сябручок цябе праводзіць. Ты пойдзеш з Фэляй? -- запытаўся ў мяне Сашка.

Крыху зьніякавеўшы, я хутка вымавіў:

-- Безумоўна. З ахвотай пайду!

Неўзабаве разам з Фэляй выйшаў з памяшканьня. Дзень быў выдатны. Вуліцай, у напрамку касьцёла, цягнулася шмат народу, пераважна моладзь. Паколькі я не ведаў, пра што размаўляць з Фэляй, дык крочылі ў маўчаньні. Калі набліжаліся да касьцёла, нас абмінала шмат сьвяточна апранутых людзей. Амаль кожны вітаўся з маёй таварышкай.

-- Ушанаваньне панне Фэліцыі!

-- Дзень добры, панна Фэля!

Яна адказвала ім, нядбала ківаючы галавой.

Непадалёку ад касьцёла заўважыў групу зь пяці мужчын ва ўзросьце ад дваццаці пяці да трыццаці пяці гадоў. Зь імі быў і Альфрэд Алінчук, якога бачыў разам з Гэляй у Трафідавым садзе. Умомант зразумеў, што гэта браты Алінчукі. Былі апрануты памяшчанску з прэтэнзіяй на шык: лакеркі альбо чаравікі, рознакаляровыя касьцюмы, яркія гальштукі, капелюшы і цыліндры. У руках усе трымалі лясачкі.

* Прысваеньне тавара купца. Слова ўтворана ад "гранда" з дабаўленьнем літары "а" на ўзор слова "акасацыя", утворанага ад "апеляцыя".

Працяг.
Пачатак у № 29—32.

# ГЕНЕТЫЧНАЯ ПАМЯЦЬ ПАЎЛІНЫ СУРВІЛЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вучыўся вельмі-вельмі добра, там і кандыдатуру атрымаў...

Мама мая з Беларусі разам з сям'ёй паехала: яе бацькі, брат і сястра маленькая. Маме восем год было, калі яны ад'ехалі. Дзядулька мой, матчын бацька, у Баранавічах працаваў у гарадскім савеце, таксама моцна трымаўся беларускага накірунку. Адным днём забралі яго і яшчэ некалькі чалавек, яны ўжо думалі: "Гэта -- усё, будуць страляць". Пасадзілі іх часова ў звычайную хату, дык яны ўзялі лаўку, прабілі сцяну ды й збеглі. Мой дзядулька адразу дадому, кажа: "Паедзем. Зараз жа". Бабулька разгубілася -- што браць, адразу, за пяць хвілін? Дзяцей -- у боты, сама -- у боты, паехалі. Усё пакінулі. Праз нейкі час апынуліся ў Даніі, мама вывучыла дацкую мову, усё было нармальна, але праз чатыры гады маміна маленькая сястрычка памерла і брат яе таксама захварэў цяжка. Тады сям'я паехала ў Францыю. Мама вучылася там у ліцэі, потым -- у Сарбоне. У Парыжы тады беларуская эміграцыя была ўжо вельмі моцная: усе важныя беларускія даты, напрыклад, 25 сакавіка, шырока святкаваліся, да іх прыязджалі беларусы з Англіі, Іспаніі. Там бацька спаткаў маму маю. Ён меў 22 гады, маме было 12, але ён прыкмеціў яе, такую прыгожую дзяўчынку, і чакаў, чакаў. Калі маме было 23 гады, яны ажаніліся. Паехалі ў Іспанію -- там бацьку прапанавалі працаваць на радыё "Свабода"; пяць год ён там працаваў у беларускай рэдакцыі. Яны тады вельмі бедна жылі з пункту гледжання грошай, але духоўна вельмі багатымі былі. Мама атрымала бакаларыят па ангельскай лінгвістыцы, малявала таксама. І дзядулька мой быў мастаком, як бацька... Калі мама даведалася, што канадыйскай амбасадзе патрабуюцца людзі з веданнем ангельскай і французскай моваў -- дакладна мая мама! -- яна як бы ў жарт пайшла на конкурс. І з чатырохсот чалавек яна атрымала першае месца. Так у канцы 60-х гадоў наша сям'я (мы з сястрой тады ўжо нарадзіліся) апынулася ў Канадзе. Бацькам было цяжка: яны ўжо добра адчувалі сябе ў Іспаніі, а тут --- зноў новая краіна, для іх гэта быў культурны шок. Канада -- цудоўная краіна, але й праз тры гады яны не маглі там сябе добра адчуваць. Толькі калі зноў знайшлі беларускую эміграцыю, зноў пачалі працаваць на беларускія справы, проста жыць у гэтым асяроддзі -- толькі тады сталі нармальна адчуваць сябе. Яны яшчэ жывуць там, я з мужам зараз у Штатах. Я думаю, вельмі важна для мяне тое, што бацькі абодва беларусы. Яны заўсёды жылі па-беларуску: у хаце па-беларуску гаварылі, інтэр'ер хаты быў беларускі, і не толькі ў нас: можна адразу спазнаць беларускі дом. Там -- посцілкі, там -- ручнікі, іконы ў куточку; не мае значэння, якая хата -- мадэрная ці традыцыянальная -- там гэта ўсё ёсць. І ў нас з мужам таксама: саломка, у куточку іконы. Гэта не робіцца штучна, гэта нармальна, гэта -- дом, беларускі дом -- так трэба. Стол заўсёды вялікі, каб прымаць людзей -- гэта робіцца па-беларуску, як і тут. Гумар не змяніўся; калі я тут гэты гумар спаткала -- ужо ведала, што гэта такое. Эстэтыка беларуская -- традыцыянальная і сучасная -- яна там яшчэ жыве. Людзі ўсё гэта шануюць і стараюцца паказваць, што гэта -- іхняя традыцыя. Мае бацькі заўсёды так жылі, ва ўсіх краінах. Па-іспанску я размаўляла ў школе і з сябрамі, у хаце -- па-беларуску. Мая бабулька, якая толькі год таму памерла, так да канца жыцця і не змяніла пашпарт -- хацела мець толькі беларускі пашпарт, бо ўвесь час чакала, што мы назад паедзем, на Беларусь.

Жыццё у іх вельмі цяжкае было: гэта цяпер усё добра -- маюць адукацыю, добрую працу, але ж усё жыццё вельмі шмат працавалі. Яны заўсёды такія працавітыя былі: тата -- эканаміст, мама -- дырэктар бюро перакладаў. Але кожны дзень пасля працы яны рабілі беларускія справы. Мама малявала, выстаўкі рабіла. Заўсёды, калі тут, на Беларусі, штосьці здаралася, яны пісалі лісты, каб уведаміць канадыйскі парламент. Калі ў 1986 годзе тут Чарнобыль выбухнуў, мама разам з беларускімі калегамі пачала арганізоўваць чарнобыльскі фонд для беларускіх дзяцей. Калі яны пачыналі, толькі 60 дзяцей прымалі на адпачынак, а цяпер ужо 400 дзяцей прыязджаюць. Прымаюць іх зараз не толькі беларускія сем'і, але й канадыйскія, індыйскія -- усялякія. Гэта, я думаю, вельмі добра і для канадыйцаў таксама: цяпер ужо яны ведаюць, што ёсць такая краіна Беларусь, непасрэдна датыкаюцца да гэтай культуры, спагадаюць беларусам, цікавяцца нашымі праблемамі...

Мае бацькі ніколі не ведалі вольнага часу, і мяне яны гэтак жа выхоўвалі; бацька мне заўсёды казаў: "Жыццё -- не каб весяліцца і гуляць, а каб працаваць". Я іх так шаную, вельмі ім удзячная. Відаць, доля іхняя такая была -- ад'ехаць і штосьці рабіць для Беларусі адтуль, бо тут яны рабіць не маглі б: тут такія ўмовы былі, што яны ўжо не жылі б, памерлі б вельмі рана. Асабліва бацька мой, таму што ён такі ўжо патрыёт, што яго ўжо даўно забілі б тут... Усе гэтыя гады яны думалі, што ніколі сюды не прыедуць, што гэтая краіна ўжо закрытая для іх і ўсе тыя ўспаміны, якія яны ўзялі з сабой -- песні, эстэтыку, мову -- яны трымалі як дакумент, жылі па гэтым дакуменце. Яны бачылі Беларусь такой, якой яна захавалася ва ўспамінах іх маладосці, і адчувалі сябе амаль што -- можа, гэта нават смешна -- апошнімі беларусамі. Менавіта таму яны ўсё гэта так моцна трымалі. Мае бацькі шанавалі гэтую культуру так натуральна, яны ніколі мне не казалі: "Трэба гэта любіць й шанаваць, гэта -- тваё", -- не, я проста бачыла, як яны жылі, і я да ўсяго, што датычыцца Беларусі, адчуваю такую любоў, хоць я тут і не нарадзілася. І калі мне трэба было выбраць спецыялізацыю, я выбрала беларускую музыку, бо яе я ўжо ведала і вельмі любіла. Бацькі на мой выбар не ўплывалі, але, я ведаю, яны вельмі задаволеныя, што я гэта сама знайшла. Мой выбар -- вынік майго выхавання, вынік іхняга жыцця -- таго, што я з дзяцінства бачыла, што я разумела. Беларусы пакалення маіх бацькоў працавалі вельмі цяжка, рабілі ўсё, што трэба было -- нават чысцілі туалеты, няважна, што грошай не мелі, але жылі адной думкай: каб толькі дзяцей адукаваць, каб яны лепш жылі. І трэба сказаць, што, па статыстыцы, сярод эмігрантаў, што жывуць у Штатах, з усіх народаў беларусы -- найбольш адукаваныя людзі. Усё маё пакаленне мае вышэйшую адукацыю, але гэта -- вынік цяжкай працы нашых бацькоў. Гэтых людзей трэба шанаваць, бо каб не іхняя любоў да Беларусі і працавітасць -- мы, як беларусы, там не існавалі б. Нават сёння гэтыя людзі, якія маюць семдзесят, восемдзесят гадоў, яшчэ працуюць на беларускія справы, каб жыла мова, каб шанавалі культуру, каб не знікла ўсё гэта. Калі тут адраджэнне пачалося, дзесьці ў 1991 годзе, для іх гэта была такая неспадзеўка, мы так святкавалі, так радаваліся, плакалі нават... Я памятаю, калі была дзіцем, мела можа пяць гадоў, ужо такі даклад рабіла, што Беларусь -- гэта такая краіна, знаходзіцца -- там, мова -- такая. Калі па тэлебачанні казалі, што гэта -- беларускі спартсмен, напрыклад, мы ўсе званілі адно аднаму, нават у другі горад: "Ці чуў? Беларусь, сказалі, Беларусь!" -- бо ўвесь час гэта было -- Расея. І калі з'явілася магчымасць сюды прыехаць -- гэта было так нечакана, так цудоўна! Для мяне асабліва, таму што я ўвесь час хацела тут працаваць, шукаць матэрыялы, ведаць, як тут людзі ўжываюць музыку. Мне пашанцавала, я атрымала стыпендыю Фульбрайт (вельмі прэстыжная ў Штатах стыпендыя), каб сюды прыехаць. Але атрымала яе таму, што ў Штатах ужо ведалі, што за краіна Беларусь, дзе гэта. Я да таго шмат гадоў спрабавала атрымаць розныя стыпендыі для працы на Беларусі, але заўсёды ўзнікала адно пытанне: дзе гэта? Я нават дэпрэсію праз гэта мела, таму што вельмі цяжка гэта чуць. Чалавек павінен адчуваць, што ён жыве ў сваім доме; эміграцыя гэта згубіла, кожны эмігрант -- няважна, адкуль ён -- не мае такога свабоднага пачуцця, яго вельмі цяжка там знайсці. Мы заўсёды маем там комплекс эмігрантаў, нават калі добра ведаем мову, маем працу і добрае жыццё. Гэта псіхалагічнае адчуванне, калі ты быццам жывеш не ў сваім доме. Я сама, нават нарадзіўшыся ў Іспаніі, -- ці там, ці ў Канадзе, ці ў Штатах -- ніколі, ніколі не мела месца, дзе б адчувала: я прыехала дамоў. А калі сюды, на Беларусь, упершыню ў 1993 годзе прыехала, адразу гэта адчула. Спачатку было крыху цяжка, таму што ўся інфармацыя, якую я мела пра Беларусь, -- гэта былі рамантычныя ўспаміны маіх бацькоў аб іх дзяцінстве, маладосці. Мой бацька прыехаў тады мяне адведаць, ужо 50 гадоў тут не быў. І для яго гэта было вельмі цяжка, таму што тыя ўспаміны, з якімі ён жыў, ужо не адпавядалі сённяшняй Беларусі. Але я хутка адаптавалася, бо разумею, што культура мяняецца -- і гэта нармальна, і я вельмі добра адчувала сябе нават у Мінску, у горадзе. У вёсцы -- гэта зусім іншая рэч, там усё ясна: радзіма бацькі, такое цудоўнае старое жыццё, але нават у Мінску я адчула гэтую беларускасць. Калі нават мяне і пыталі: "Ну як табе тут, на Беларусі?" -- я адказвала: "Цудоўна, не хачу дадому!" Мне не верылі: "Паўліна, што ты такое кажаш!.." Я адчувала, што жыццё тут нялёгкае, нават сама пэўны час ела толькі капусту, але для мяне гэта нічога не значыла. Я была тут тады восем месяцаў, майго мужа не было са мной, ён нават думаў, што ўжо згубіў мяне. Але я так добра сябе тут адчувала, што не хацела вяртацца. Там, у Штатах, калі вярнулася, мне шмат часу спатрэбілася, каб зноў адаптавацца, а тут, калі сёлета прыехала, -- два дні. Мне так цудоўна тут! Сябры жартуюць са мной, маўляў, мо, гэта голас крыві, генетычная памяць?..

Але зараз адчуваю, што на Беларусі стала значна цяжэй, горш. Тады, два гады таму, гэтае адраджэнне вельмі адчувалася, але толькі пачыналася. Сёння -- усё незразумела. Зараз я ўжо на вуліцы чую беларускую мову, у крамах на падзяку адказваюць: "Калі ласка". Мне ўжо не гавораць, як тады: "Говори по-нашему". Цяпер адчуваецца больш натуральная і паўсюдная беларускасць, але тое, што атрымалася з нашай сімволікай, -- проста незразумела. Для нас мець нацыянальны сцяг, мець нашу "Пагоню" мае такі вялікі сэнс, гэта ж такая гісторыя! Мы ў эміграцыі зусім не зразумелі гэты рэферэндум і рэакцыю на яго. Але мне здаецца, людзі ўжо пачынаюць разумець, што штосьці згубілі, і проста пытаюцца ў сябе: "Што мы тут зрабілі? Гэта ж не наша гісторыя, гэтыя новыя сімвалы -- штосьці штучнае". І такая рэакцыя натуральная, гэта рэакцыя людзей, якія ўжо самі пачынаюць шукаць праўду праз гісторыю, праз традыцыю, не толькі праз сучасныя кантэксты.

З боку эканомікі, калі я ўпершыню прыехала, яшчэ нармальна было, цэны былі параўнальнымі з зарплатай. Цяпер жа так цяжка -- я проста не ведаю, як тут людзі жывуць. Усё каштуе ў два разы больш, чым у нас, і гэта -- проста ненармальна. Я ведаю, мне лёгка гаварыць, але ж трэба нейк пратрымацца, калісьці ўсё павінна ўвайсці ў норму. Для мяне культура і эканоміка заўсёды ідуць разам, гэта ўвогуле -- здароўе нацыі. У Штатах, калі даведаліся (простыя амерыканскія людзі), што народ Беларусі ад сцяга адмовіўся, для іх гэта было дзівам, абсурдам, бо яны б памерлі, каб з іхнім сцягам штосьці зрабілі. Тое, што беларусы зараз так актыўна сябе шукаюць, -- вельмі добра, таму што калі свет убачыць павагу народа да сваёй культуры, мовы, сімвалаў, традыцый, то зразумее, што гэта -- здаровая нацыя. Наогул, гэта вельмі складаныя рэчы -- паняцці нацыянальнай годнасці, свядомасці, нацыяналізму. У нас таксама існуе прадузятае ўяўленне аб нацыяналізме, маўляў, гэта значыць, што мы найлепшыя, а ўсе іншыя горшыя за нас. Але для мяне нацыяналізм і адчуванне патрыятызму -- тыя ж самыя рэчы. Я тут спаткала людзей, якія вельмі добра размаўляюць па-беларуску, але яны не маюць нацыянальнай годнасці. Ведаць мову -- яшчэ нічога не значыць: для кагосьці гэта проста выгадна ці па справах трэба -- яны добра вывучылі мову, але ментальнасці беларускай у іх няма. Найважней тое, што я цяпер бачу: людзі пачынаюць адчуваць сябе беларусамі, самі на гэты шлях ідуць. Гэта, так бы мовіць, здаровы нацыяналізм, калі людзі ведаюць, адкуль яны, чым вартая наша мова, культура, калі гэта разумеецца як агульнае багацце. На маю думку, беларусам зараз не хапае нацыяналізму, яны проста не ведаюць, што гэта такое. Адбываецца маніпуліраванне такімі рэчамі, аб якіх тут не маюць уяўлення. Напрыклад, тэрмін дэмакратыя ўжываецца нават як жарт. Я, калі гэта пачула, сказала: "Вы проста не ведаеце, што гэта значыць; у нас дэмакратыя -- не жарт, бо ўсё робіцца па-іншаму". Я думаю, што трэба, каб кожная краіна сама знайшла сэнс кожнага з тэрмінаў, таму што зараз сказаць, што на Беларусі будзе такая ж дэмакратыя, як і ў Штатах, -- смешна, абсурдна. Гэта зрабіць немагчыма ў сённяшніх умовах нават з гэтай ментальнасцю; трэба, каб Беларусь знайшла гэты шлях сама, калі ўся нацыя будзе адчуваць, што ніхто не дасць гасцінца ў выглядзе дэмакратычнай, свабоднай і багатай суверэннай дзяржавы, што гэта трэба рабіць разам, праз мову, культуру, праз нацыянальную сям'ю. Тады і паўстане здаровая й моцная краіна Беларусь.

Мне даспадобы наш беларускі характар -- ён вельмі паэтычны, гэта адчуваецца амаль у кожнай песні. Цяжка перадаць яго амерыканцам, і я найбольш гэта адчуваю, калі зараз выкладаю ва універсітэце беларускую музыку. Словы песень я перакладаю, але энергію, гумар, эмоцыі, эстэтыку, думкі -- гэта ўсё вельмі цяжка перакласці, гэта ўсё -- тут. Калі я выкладаю маім амерыканскім студэнтам, спачатку для іх беларуская музыка -- экзотыка, таму што звычайна яны нават не ведаюць, што за краіна, дзе гэта. Праз нейкі час пачынаюць прасіць: "Ці можна мець копію гэтай песні?" Яны нават, я ўласна чула, хадзілі ва універсітэце і спявалі "Лявоніху". Мне было так цікава! Я іх не змушала -- проста выкладала, значыць, яны адчуваюць у гэтай музыцы нешта, нейкую энергію. Мову не разумеюць, але ім хочацца гэта слухаць не толькі ў курсе, але й самім, у хаце слухаць і ведаць больш. Для мяне, напрыклад, вельмі цікавая і сучасная беларуская культура, рок-культура, у якой адчуваецца -- і не толькі праз мову -- яе беларускасць, калі гурты (напрыклад, "Палац") часткова ўжываюць беларускі фальклор. Гэта вельмі цікава, таму што ў Еўропе, у Штатах і ў Канадзе існуе агульны рок-стыль, па якім не скажаш, чыя гэта музыка, якой краіны. Беларускія гурты свядома трымаюць беларускі характар сваёй музыкі, вельмі дакладна гэта робяць, і калі я іграю іх музыку ў нас -- публіка гэта адчувае і з цікавасцю слухае, бо гэта не штучна. Беларускія гурты, што спяваюць па-расейску альбо стараюцца па-ангельску, не ведаюць, што яны губляюць у музычнай эстэтыцы, бо менавіта мова дае падставы для мелодый арыгінальных і не штучных. Мне здаецца, што беларуская мова, вельмі прыгожая і мілагучная, мае ўплыў на ментальнасць, на адчуванне беларускасці -- што страшэнна важна. І я разумею, што сярэдняму, рускамоўнаму пакаленню тутэйшых беларусаў цяжка навучыцца мове. Але вельмі важна, каб іхнія дзеці не мелі гэтых цяжкасцяў, каб яны нармальна, натуральна адчувалі, што беларуская мова -- цудоўная, прыгожая мова і што проста трэба яе ведаць. Калі я яе чую -- рэагую проста эмацыянальна: мне цудоўна. Я таксама гавару яшчэ на чатырох мовах, але гэтая -- мая любімая...

Характар чалавека мяняецца ў залежнасці ад яго выхавання, умоў, культуры, але ў адносінах паміж людзьмі ёсць нешта агульнае. Можна, я думаю, меркаваць, што гэтыя адносіны -- праз Бога, праз давер, праз каханне. Але калі чалавек сам сябе не любіць -- як ён можа другіх любіць? Я расла і ў каталіцкай, і ў праваслаўнай традыцыі: мая мама праваслаўная, тата -- каталік, і для мяне рэлігія -- гэта вельмі ліберальная рэч. Я магу зразумець, чым цікавы будызм ці пратэстантызм -- гэта проста думкі, форма ўяўлення, якую кожная культура знайшла, каб лепш зразумець вышэйшы свет. І Ён, я думаю, проста смяецца з нас, што мы такія дзіўныя, не бачым, што гэтыя спосабы зразумець свет -- усе тыя ж самыя. Мы шукаем адну й тую ж рэч, мабыць -- каханне, таму што Бог і ёсць каханне. І калі чалавек мае думкі пра гэта -- ён больш гатовы ўспрыняць суседзяў, нават калі яны і не падобныя на яго і іх погляды і светаўспрыманне адрозніваюцца ад ягоных. Я вельмі люблю і шаную беларускую культуру, але ж я шаную і кожную іншую культуру, якую выкладаю -- ці то афрыканскую, ці інданезійскую, тайландскую. Без любві да іншых культур я б не дазволіла сабе несці гэтую інфармацыю да студэнтаў. Я заўсёды вельмі добра адчуваю сябе, няважна дзе і з кім, -- проста таму што разумею: кожны чалавек нясе ў сабе іншую культуру, светапогляд, іншую канцэпцыю Бога. Калі чалавек добра адчувае сябе ва ўласнай канцэпцыі, то ён заўсёды добра жыве з людзьмі, якія, можа, думаюць інакш. І таму я проста імкнуся зразумець тых, з кім сутыкаюся ў жыцці.

Вяртаючыся зараз у Амерыку, я не развітваюся з Беларуссю надоўга. Я жадаю вам усім здароўя, маючы на ўвазе не толькі фізічнае, але і здароўе ў эканоміцы, таму што калі чалавек адчувае сябе стабільна, ён можа думаць, хто ён і адкуль, што для яго важна з пункту гледжання сям'і, гісторыі, мовы, культуры. Я б вельмі жадала, каб у мой наступны прыезд сюды больш людзей ведала і з прыемнасцю размаўляла на гэтай мове і каб тутэйшыя людзі трымалі галаву высока ад таго, што яны -- беларусы".

**Наталля СОБАЛЕВА.**

ДА ЮБІЛЕЮ Уладзіміра ДУБОЎКІ

# ПАЭТА ПАКУТНІЦКІ ШЛЯХ

Сёлета споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта, празаіка, перакладчыка і крытыка Уладзіміра Дубоўкі.

Цяжкі і пакутлівы жыццёвы шлях выпаў на яго долю.

Дубоўка заняў пачэснае месца ў багатай на таленты беларускай літаратуры, разам з іншымі вядомымі пісьменнікамі закладваў яе асновы. Равеснік веку, сын селяніна з Пастаўшчыны, Дубоўка дэбютаваў у 1921 годзе і ўжо першымі сваімі выступленнямі ў друку звярнуў на сябе ўвагу літаратурнай грамадскасці. Яго творчасць высока ацэньваў Я.Купала. Вялікі пясняр лічыў, што з маладых паэтаў найбольшыя надзеі падае Уладзімір Дубоўка.

Дубоўка прымаў жывы ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці Беларусі. Ён быў адным з кіраўнікоў літаратурнага аб'яднання "Маладняк", крыху пазней -- "Узвышша", займаўся пытаннямі рэфармавання беларускага правапісу. Уладзімір Мікалаевіч актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці беларускіх зямляцтваў у Маскве, куды пераехаў з бацькамі яшчэ падчас першай сусветнай вайны, будучы 15-гадовым хлапчуком. Тэрытарыяльная адарванасць ад Радзімы зусім не перашкодзіла яму стаць першакласным майстрам беларускага паэтычнага слова, кнігамі якога зачытвалася ўся Беларусь. "О, Беларусь, мая шыпшына!..." -- гэтыя Дубоўкавы словы сталі своеасаблівымі паэтычнымі пазыўнымі цэлага пакалення. Але тварыў паэт вельмі нядоўга. Набліжаліся жудасныя сталінскія беззаконні трыццатых гадоў. Для Дубоўкі кругі гулагаўскага пекла пачаліся ў 1930 годзе. Арыштавалі яго 30 ліпеня ў Маскве, дзе ён працаваў тады ў Саўнаркоме, перакладаючы на беларускую мову законы і пастановы саюзных органаў. Як і многія іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, ён абвінавачваўся ў нацдэмаўшчыне і быў прыгавораны да пяці гадоў высылкі. Месцам высылкі прызначылі горад Яранск Кіраўскай вобласці. Потым дадалі яшчэ два гады і адправілі ў Чэбаксары (Чувашыя). Тады Дубоўка яшчэ не ведаў, што яго гулагаўская адысея расцягнецца амаль на трыццаць гадоў. Трыццаць доўгіх, вырваных з літаратуры гадоў ён правёў у турмах і ссылках. Таленавіцейшы паэт, чалавек высокай культуры, ён пасля арышту быў вымушаны авалодаць дзесяткам прафесій -- маляр, сталяр, плотнік, пячнік, сантэхнік і г.д. Усё, што заўгодна, толькі не літаратар. Яго прымусілі забыць аб літаратурнай працы.

Але Уладзіміру Мікалаевічу ўсё ж пашчасціла -- ён выжыў.

Разам з ім зазнала гора і яго жонка, тады маладая настаўніца Марыя Пятроўна. Дзявочае прозвішча яе -- Кляус. Яна паходзіла з дваранскага роду (праўда, пасля рэвалюцыі гэта ўтойвалася). З першым арыштам паэта пачаліся іх вымушаныя вандроўкі па краіне: Яранск, Шушэрга, Чэбаксары. Марыя Пятроўна была побач з Уладзімірам Мікалаевічам у самыя цяжкія моманты іх жыцця. Як толькі высвятлялася, куды чарговы раз адправілі мужа, Марыя Пятроўна збірала рэчы і з маленькім сынам на руках ехала за ім. Але бяда не пакідала іх, яна крочыла следам. У 1937 годзе зноў арышт і прысуд -- 10 гадоў далёкіх лагераў. А гэта ўжо, акрамя ўсяго іншага, значыла 10 доўгіх гадоў разлукі. Калі на спатканні з Дубоўкам Марыя Пятроўна паведаміла яму аб гэтым, ён не мог паверыць:"Не можа быць, табе сказалі няпраўду, ніякай жа справы няма. Я ўпэўнены, што пасля выбараў нас адпусцяць" (гл. успаміны). Краіна рыхтавалася тады да выбараў паводле новай "Сталінскай" канстытуцыі.

Аднак праз нейкі час у пісьме да жонкі Дубоўка ўжо піша: "Как и прошлый раз -- ничего конкретного не предъявлено. Почему-то мне кажется, что всё это в связи с выборами. Возможно, что после выборов и отпустят. Сюда я привезен как следственный, никакого решения нет, но вполне возможно, что дадут и срок..."

І вось -- 10 гадоў лагераў. Пасля такога жорсткага прысуду нават маці Уладзіміра Мікалаевіча раіла Марыі Пятроўне развесціся з мужам, каб захаваць сябе і сына. Але Марыя Пятроўна не магла дапусціць і думкі такой, яна засталася вернай сабе і мужу, старалася хоць нечым аблягчыць яго жыццё, цярпліва чакала яго ўсе 10 гадоў, пісала, слала пасылкі, адна пахавала свайго адзінага сына Аліка (трагічна патануў падлеткам у 1942 годзе), з трывогай чакала адбыцця тэрміну пакарання Дубоўкі. І дачакалася. Нарэшце, у 1947 годзе, яны ізноў пасяліліся разам у Зугдзідзі (Грузія), куды Уладзіміру Мікалаевічу дазволілі пераехаць пасля адбыцця пакарання. Але, на жаль, ненадоўга. У 1949 годзе зноў арышт і высылка -- на гэты раз у Краснаярскі край. Ізноў Марыя Пятроўна сабралася ў дарогу. Там яны пражылі да 1958 года, пасля рэабілітацыі Уладзіміра Мікалаевіча вярнуліся ў Маскву, дзе жылі яны перад першым арыштам Дубоўкі.

Пасля смерці Уладзіміра Мікалаевіча (1976 г.) Марыя Пятроўна занялася ўпарадкаваннем яго спраў. Яе трывожыў лёс архіва Дубоўкі. Хацелася надзейна захаваць тое, што засталося пасля яго. Асабліва хвалявалася яна аб захаванні пісьмаў Уладзіміра Мікалаевіча з Далёкага Усходу, якія з такой цяжкасцю ёй удалося зберагчы ў тыя суровыя гады. Вядомы літаратуразнавец Юліян Сяргеевіч Пшыркоў параіў перадаць рукапісную спадчыну пісьменніка ў Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Беларусі, дзе яна зараз і захоўваецца. Юліян Сяргеевіч таксама



папрасіў Марыю Пятроўну напісаць успаміны пра Уладзіміра Мікалаевіча і пра той вельмі цяжкі перыяд іх сумеснага жыцця, што яна і зрабіла. Успаміны гэтыя таксама захоўваюцца ў ЦНБ АН Беларусі. Марыя Пятроўна напісала іх у 1976 годзе, у хуткім часе пасля смерці мужа, у двух варыянтах, пад іранічнай назвай "Мае санаторыі і курорты". Варыянты гэтыя ў нейкай ступені адрозніваюцца, як бы дапаўняюць адзін аднаго. Адзін варыянт успамінаў ужо друкаваўся ў 1994 годзе ў другім нумары часопіса "Маладосць", другі ж варыянт прапануем увазе чытачоў "Голасу Радзімы". Тут шмат новага ў параўнанні з ужо апублікаваным варыянтам.

**Яніна КІСЯЛЁВА,**
**загадчык сектара рукапісаў Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН Беларусі.**

*Успаміны М. ДУБОЎКІ будуць друкавацца ў бліжэйшых нумарах.*



**Вольга КАЖЭЎНІКАВА -- салістка ансамбля народнай песні "Галубіца" полацкага завода "Шкловалакно". Песні, танцы і жарты, з якімі яна выступае, падабаюцца гледачам.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# ЦІ ВЫРАТУЕ НАС ПРЫГАЖОСЦЬ?

У нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная міжнароднай культурнай дабрачыннай акцыі -- Дням высокай моды і опернага мастацтва ў Беларусі. Правядзенне акцыі пад дэвізам "Прыгажосць выратуе свет" у Мінску намячаецца на пачатак мая 1996 года і будзе прымеркавана да 10-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Гэтая акцыя павінна прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці і міжнародных фінансавых інстытутаў да вынікаў катастрофы, ад якой асабліва пацярпела Беларусь, бо, па інфармацыі вядучых педыятраў, у рэспубліцы засталося не больш 10 працэнтаў здаровых дзяцей. Ахвяраванні і заробленыя сродкі будуць перададзены ў беларускія фонды пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і накіраваны на вырашэнне праграм развіцця навукова-медыцынскай базы дзіцячых анкагематалагічных цэнтраў, прафілактыкі хвароб, якія ўзнікаюць у выніку радыяцыйнага апраменьвання.

Арганізатары свята -- беларуская фірма "Белайр", французская фірма "WAB PRODUCTION", якая дала згоду на дабрачынны ўдзел у акцыі ў якасці аднаго з пастаноўшчыкаў гала-спектакля, абяцаюць небывалае відовішча -- сінтэз мастацтва оперы і высокай моды. Для гэтага ўпершыню ў Мінск запрошаны ўсе 18 Дамоў моды -- членаў Федэрацыі высокай моды Францыі і прэстыжных фірм Еўропы, першыя оперныя галасы свету: Мантсарат Кабалье, Лучана Паварoці, Плачыда Дамінга, Хасэ Карэрас. Ужо атрыманы гарантыі ўдзелу ў гала-спектаклі акцыі 14 Дамоў высокай моды Францыі з прадстаўленнем 15 мадэлей ад кожнага Дома, поўныя калекцыі (70 мадэлей) прадэманструюць такія Дамы моды, як Ніна Рычы, Тэд Лапідус, Пака Рабан, Таронт. У спектаклі прымуць удзел як сусветна вядомыя манекеншчыцы, так і беларускія мадэлі, якія будуць прадстаўляць беларускую моду. Згодай на запрашэнне прыехаць адказалі Мсціслаў Растраповіч і Галіна Вішнеўская. Гасцямі акцыі будуць вядучыя палітычныя, навуковыя, грамадскія дзеячы СНД, Францыі, Італіі, Іспаніі, якія прымуць удзел у семінары па праблемах вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Разам з беларускімі сродкамі масавай інфармацыі асвятляць ход падрыхтоўкі і правядзенне акцыі будзе міжнароднае інфармацыйнае агенцтва "Сігма". Агенцтва мадэлей "FAM" прапанавала дзесяць сваіх вядучых манекеншчыц і бярэцца правесці прэзентацыю акцыі ў кастрычніку 1995 года сярод буйных бізнесменаў, вядучых палітыкаў, мадэльераў Францыі.

Будзе добра, калі гэты грандыёзны праект здзейсніцца і дасць жыццё сусветнаму дабрачыннаму руху "Прыгажосць выратуе свет".

**Алена КАЗЛОВА.**

# НЕ ЗАЎСЁДЫ ПЕРШЫ БЛІН КАМЯКОМ...

З 26 чэрвеня па 16 ліпеня гэтага года ў Празе (Чэхія) адбылася міжнародная выстава тэатральных мастакоў "Квадрыенале-95", на якой Беларусь упершыню была прадстаўлена (у асобе Саюза тэатральных дзеячаў) экспазіцыяй вядучых сцэнографаў як самастойная дзяржава сярод 50 краін-удзельніц.

Галоўнай задачай фарміравання беларускага павільёна на выставе з'явілася раскрыццё творчай індывідуальнасці кожнага з 6 тэатральных мастакоў, якія на сённяшні дзень актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні рэпертуару беларускіх тэатраў: Л. Ганчаровай (мастак-пастаноўшчык ДАВТа), Э. Грыгарук (мастак па касцюмах ДАВТа), З. Марголіна (галоўны мастак Маладзёжнага тэатра), Д. Мохава (галоўны мастак Тэатра-студыі кінаакцёра), В. Рачкоўскага (галоўны мастак Мінскага абласнога тэатра лялек горада Маладзечна), А. Фаміной (галоўны мастак Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі).

Аб прыстойным прафесійным узроўні беларускіх мастакоў сведчыць высокая ацэнка міжнароднага журы на Квадрыенале ў Празе, якое адзначыла сярэбраным медалём макет З. Марголіна да спектакля па п'есе Ф. Саган "Загнаны конь" (рэжысёр М. Пінігін).

Гэта асабліва прыемна ў сувязі з тым, што многія замежныя калегі ўпершыню адкрылі для сябе нацыянальную культуру Беларусі як самастойнай дзяржавы, а не члена вялікай сям'і народаў былога СССР. Пра гэта сведчыць шэраг прапаноў аб супрацоўніцтве і развіцці творчых сувязей.

Можна спадзявацца, што творчасць беларускіх сцэнографаў знойдзе падтрымку не толькі ў асобе Фонду Сораса, які фінансаваў паездку, але і непасрэдна ў Міністэрстве культуры і друку дзяржавы.

**Ірына РАХМАНАВА.**

# ПАЦЯРПЕЎ СВЯТА-НІКОЛЬСКІ МАНАСТЫР

Пацярпеў ад пажару Свята-Нікольскі манастыр Магілёва -- святыня праваслаўных, помнік гісторыі і архітэктуры, што ўваходзіць, паводле даных ЮНЕСКА, у лік шасці найбольш старажытных у свеце храмаў. Згарэла вельмі каштоўная музейная ікона, палавіна старадаўняга іканастаса, пацярпелі падлога, клірас.

Здарылася гэта напярэдадні святкавання праваслаўнай царквою дня памяці аднаго з самых шануемых святых -- Георгія Каніскага.

СТАРОНКІ "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"

# СІМВАЛ ЗАНЯДБАННЯ

У доме, што стаіць на рагу вуліц Крылова і Політэхнічнай у Віцебску, з 1803 па 1876 год знаходзілася мужчынская аляксандраўская гімназія. Будынак узводзіўся спецыяльна з мэтаю размяшчэння ў ім навучальнай установы. Напачатку гэта было Віцебскае галоўнае народнае вучылішча, якое ў 1808 годзе было ператорана ў губернскую гімназію.

Зараз на будынку вісіць мемарыяльная дошка, якая згадвае аб гадах навучання тут дзекабрыста Івана Гарбачэўскага (1800--1869). Аднак гістарычная аб'ектыўнасць вымагае таго, каб побач з ёю з'явіўся яшчэ добры дзесятак дошак, якія ўслаўлялі б імёны дзеячаў не толькі расійскай, але і беларускай, і польскай культур. У Віцебскай гімназіі, напрыклад, вучыўся вядомы паэт, фалькларыст і кнігавыдавец Аляксандр Рыпінскі (1811--каля 1900), пісьменнік Геранім Марцінкевіч (1816--1864), прыродазнаўца і мемуарыст Максімільян Маркс (1816--1893). Выпускнік гімназіі Каэтан Касовіч (1814--1883) стаў адным з першых у Расіі санскрыталагаў, а Аляксей Сапуноў (1851--1924) -- знакамітым беларускім гісторыкам і краязнаўцам. У розныя гады ў гімназіі выкладалі шырока вядомыя зараз на Беларусі навукоўцы Павел Шэйн, Мікалай Нікіфароўскі, Еўдакім Раманаў.





Сёння будынак былой Віцебскай гімназіі -- самы недагледжаны на вуліцы Крылова. З'яўляючыся ўласнасцю аднаго з заводаў, ён патрабуе тэрміновай рэстаўрацыі, аб якой ужо каторы год вядуцца адны толькі размовы. За гэты час на даху будынка падраслі ўжо ладныя бярозкі. Больш таго, у двары былой гімназіі і памяшканнях першага паверха зараз уладкаваны гарадскі тэатр звяроў. Гэта ж каму расказаць: у спляжаным усялякімі разбурэннямі Віцебску змучаныя жывёлы вядуць сваё незайздроснае існаванне ва унікальным помніку культуры пачатку XIX стагоддзя...

У круглай актавай зале верхняга паверха былой гімназіі яшчэ захаваўся бадай што апошні на Беларусі ўвагнуты плафон. Мастак Алесь Пушкін марыць распісаць яго, занатаваўшы на столі выявы навучэнцаў і выкладчыкаў гімназіі, станоўчыя і адмоўныя постаці віцебскай гісторыі, асобныя падзеі мясцовага жыцця. Хутка будзе гатовы эскіз роспісу, аднак прыступіцца да яго выканання зараз проста немагчыма: працякае дах, і сродкаў на яго рамонт няма ні ў кога...

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак былой Віцебскай мужчынскай гімназіі; тэатр звяроў у двары гімназіі.**

# З КАГОРТЫ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ

Да іх належыць і нямецкі філолаг -- славіст Рудольф Абіхт, з дня нараджэння якога споўнілася 145 гадоў. Ён адным з першых у Германіі пачаў даследаваць, перакладаць і папулярызаваць беларускую літаратуру, не абыходзіў увагай і пытанняў развіцця нашай мовы. Дарэчы, Р.Абіхт падчас нямецкай акупацыі апынуўся на Беларусі і ў 1917--1918 гадах выкладаў беларускую мову ў Свіслацкай настаўніцкай гімназіі.

Рудольф Абіхт -- аўтар прац "Паказальнік крыніц Супрасльскага рукапісу" (1893--1898), "Слова аб палку Ігаравым" (1895). У апошняй пераклаў на нямецкую мову тэкст гэтага помніка старажытнай літаратуры.

10 красавіка 1917 года Р.Абіхт выступіў у газеце "Гоман" з артыкулам "Калі напісаны "Тарас на Парнасе", дзе выказваў уласныя меркаванні адносна з'яўлення гэтага выдатнага твора. У нямецкай газеце "Наглядальнік" у 1919 годзе былі апублікаваны пяць яго артыкулаў "Са старажытнай і новай гісторыі беларусаў".

Нельга не згадаць, што Р.Абіхт разам з Я.Станкевічам у 1918 годзе выдаў у Вроцлаве лацінкай беларускі буквар "Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным". Пры садзеянні Р.Абіхта пабачыў свет у 1919 годзе ў Берліне зборнік "Беларусь", прысвечаны гісторыі, геаграфіі і культуры нашага краю. Для гэтай кнігі Р.Абіхт пераклаў на нямецкую мову пад назвай "Беларуская нацыянальная песня" верш Я.Купалы "А хто там ідзе?" (змешчаны з нотамі Л.Рагоўскага), а пад назвай "Пад навалай крыўдаў..." -- верш "Роднае слова", а таксама апавяданне Я.Коласа "Бунт", легенду В.Ластоўскага "Юга і Грамавік", шэраг беларускіх казак і песень.

Працаваў Р.Абіхт і над гісторыяй беларускай літаратуры. Ва ўрыўку, які дайшоў да нашых дзён, даецца высокая ацэнка творчасці Я.Купалы і Я.Коласа.

І яшчэ адна важная старонка ў біяграфіі гэтага выдатнага нямецкага навукоўца -- яго сяброўства з беларускімі нацыянальнымі дзеячамі. Цесныя сувязі, у прыватнасці, звязвалі Р.Абіхта з Антонам Луцкевічам. Пра гэта, дарэчы, можна даведацца з чацвёртага выпуску гісторыка-літаратурнага зборніка "Шляхам гадоў", выпушчанага ў 1994 годзе выдавецтвам "Мастацкая літаратура". У ім змешчаны артыкул У.Сакалоўскага, а гэта дзякуючы найперш яго намаганням імя Р.Абіхта і дайшло да Беларусі -- "Забытая старонка гісторыі" і перапіска Р. Абіхта з А.Луцкевічам.

НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# НА КАНВЕРТАХ -- НАРОДНЫЯ СВЯТЫ

Апошнім часам калекцыі беларускіх філатэлістаў папоўніліся цікавымі канвертамі, малюнкі якіх прысвечаны народным святам. Мастак Л. Варэца знайшоў арыгінальны і аднолькавы спосаб афармлення малюнкаў канвертаў. Усе малюнкі ўяўляюць сабой круг, унутры якога -- характэрныя для данага народнага свята сцэны. Пад кожным малюнкам -- назва народнага свята. Канвертаў такіх выпушчана чатыры -- "Каляды", "Дажынкі", "Гуканне вясны" і "Купалле". Яны арыгінальныя яшчэ і тым, што практычна ўпершыню на паштовых выпусках паказана беларускае нацыянальнае адзенне. Савецкая пошта двойчы выпускала маркі з адлюстраваннем беларускага нацыянальнага адзення. Адна з іх была выдадзена ў перадваеннай вядомай этнаграфічнай серыі -- беларусы на палявых работах. Другая -- у 60-я гады. Міністэрства сувязі СССР увогуле не вельмі "балавала" філатэлістаў маркамі ці канвертамі, прысвечанымі нацыянальнаму адзенню ці святам.






Не забыта поштай і тэма аховы прыроды. Адразу тры канверты папоўнілі філатэлістычныя калекцыі аб прыродзе рэспублікі. Аб запаведніку Белавежская пушча (заснаваны ў 1939 годзе) ведаюць ва ўсім свеце. Варта сказаць, што пошта СССР выпусціла серыю марак і канвертаў аб Белавежскай пушчы, правяла спецыяльнае гашэнне "Першы дзень" з арыгінальным малюнкам у дзень выхаду марак у паштовае абарачэнне. Але гэта было ў мінулым. А сёння пошта Беларусі выпусціла ў абарачэнне цікавы канверт, на малюнку якога мастак А. Мядзведзеў паказаў магутнага жыхара пушчы -- зубра на фоне векавых сосен. Надпіс пад малюнкам гаворыць, што канверт прысвячаецца Нацыянальнаму парку "Белавежская пушча".

Тэма запаведнікаў, аховы прыроды была заўсёды папулярнай у філатэліі ва ўсім свеце. Таму і пошта былога СССР старалася не адставаць з выпускамі на гэтую тэму.

На канверце, што з'явіўся ў Беларусі нядаўна, надпіс "Бярэзінскі біясферны запаведнік" і адлюстраванне такуючага глушца. Наступны канверт з гэтай серыі прысвечаны Прыпяцкаму ландшафтна-гідралагічнаму запаведніку (заснаваны ў 1969 годзе), на малюнку канверта паказана гняздоўе бусла. Будзем спадзявацца, што беларускія калекцыянеры яшчэ папоўняць свае зборы канвертаў аб прыродзе іншымі выпускамі пошты аб запаведніках рэспублікі.

Не забыты поштай і святы 8-е Сакавіка і Дзень Перамогі. Да жаночага дня быў выпушчаны канверт з малюнкам букета вясновых кветак і надпісам "Са святам 8 Сакавіка!" Да Дня Перамогі было выдадзена два канверты.

150-годдзе вядомага географа і падарожніка І. Чэрскага было адзначана выпускам канверта з адлюстраваннем хрыбта Чэрскага ў Сібіры. Мастак Л. Варэца намаляваў у дадатак карту, компас і дзённік падарожніка і адкрывальніка.

Выпушчаны першы канверт з серыі "Вучоныя Беларусі". Ён прысвечаны акадэміку Г. Багамолаву (1905--1981), 90-годдзю з дня яго нараджэння. На малюнку канверта -- партрэт вучонага на фоне карты рэспублікі. На карце паказаны карысныя выкапні, у адкрыцці і разведцы якіх вучоны прымаў удзел -- "соль, мінеральныя воды, нафта". Г. Багамолаву ў 1972 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія рэспублікі за адкрыццё і разведку нафты ў Беларусі, а ў 50-я гады за адкрыццё і разведку Старобінскага радовішча калійных солей. Пошта мае намер прысвяціць шэраг канвертаў гэтай серыі беларускім вучоным.




**Леў КОЛАСАЎ.**


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3430. Падпісана да друку 28. 8.1995 г.**